


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

21 ЛІПЕНЯ 2000г. № 29/4061 КОШТ 95 РУБ.


## "ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ"

***Быў час, калі ў нашай краіне ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выходзіў штогадовы альманах "Дзень паэзіі". Нягледзячы на немалыя наклады, ён ніколі не залежваўся на паліцах кнігарань. На жаль, ужо больш пяці гадоў "Дзень паэзіі" нават і не значыцца ў планах выдавецтва...***

***Пра тое, што беларуская зямля багатая на паэтаў і што яны, нягледзячы на тое, што кніжкі выходзяць вельмі рэдка, працуюць, сведчыць і наш, лімаўскі, "Дзень паэзіі". Свае новыя вершы сёння чытачам "ЛіМа" прапануюць: Алег САЛТУК, Леанід ПРАНЧАК, Мікола ПАПЕКА, Павел МІСЬКО, Рычард БЯЛЯЧЫЦ, Святлана ЯВАР, Янка КАРПОВІЧ, Янусь МАЛЕЦ, Казімір КАМЕЙША, Мікола ШАБОВІЧ, Ніна ГАРАГЛЯД, Серафіма БЕСТАВА, Алена ЯКАЎЛЕВА, Ірына ЛЯШКЕВІЧ, Уладзімір ШПАДАРУК, Юрый АРЭСТАЎ, Анатоль КРЫВІЦКІ, Алесь МАКАРЦОЎ, Ганна ШКОДА, Тамаш ЛЯШОНАК, Алег КАЦАПАЎ, Мікола САЛАЎЦОЎ, Ігар ЛОСІК, Тамара БАРАДЗЁНАК, Яўген КАРШУКОЎ, Алесь МАЗУР, Алена МІРЧУК, Уладзімір РУНЦЭВІЧ, Тэрэза КРУМПЛЕЎСКАЯ, Юры КАРЭЙВА, Сяргей РУБЛЕЎСКІ, Сяргей ПАТАРАНСКІ, Віктар ЖЫБУЛЬ, Зміцер ВІШНЁЎ, Віктар ТРУСЕВІЧ, Масей СЯДНЁЎ, Мечыслаў ШАХОВІЧ, Іван ЛАГВІНОВІЧ, Галіна ДАШКЕВІЧ, Алена ШУНЕЙКА, Алена КЛЮЧЫНСКАЯ, Святлана АБДУЛАЕВА, Расціслаў БЕНЗЯРУК, Ігар КЛЕПІКАЎ, Насця ЧУБКО, Вадзім ШКЛЯРЫК, Алена ШАРАПА, Ганна МІКЛАШЭВІЧ, Алена БАБУРЭВІЧ, Вера КАВАЛЕЎСКАЯ, Вольга ЧУМІЧОВА, Яўгіння КАЛЯДА, Юры ЧАРНЯКЕВІЧ, Мая ЛЬВОВІЧ і іншыя.***

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на другое паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **400** рублёў, на квартал — **1 200** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 250** рублёў, на квартал — **3 750** рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

*Вечар. Горад. Супакойны час...*
*Можна ў адзіноце ля вады*
*Хоць на міг забыцца пра гады,*
*Што лятуць над намі і праз нас...*

# КОЛА ДЗЁН

***Нядаўна на Міншчыне праходзіў абласны фальклорны фестываль. Удзельнічалі ў ім і госці, у тым ліку калектыў з Калабрыі — самай паўднёвай правінцыі Італіі. Карэспандэнт Беларускага радыё папрасіў гасцей падзяліцца ўражаннямі ад Мінска і Беларусі наогул. Італьянец адказаў прыкладна так: мы ў захапленні, у вас усё такое прасторнае, вялікае, зялёнае!.. Беларусь, аказваецца, успрымаецца як вялікая краіна з нямеранымі адлегласцямі, з неабсяжнымі лясамі. Па еўрапейскіх мерках. А мы ўсё плачамся: маўляў, Беларусь — усяго толькі маленькі лісток на карце свету... Зрэшты, гэта так, між іншым. А галоўнае тое, што гэтаму лістку сёлета, як летась і залетась, вельмі не шанцуе. Спачатку моцна сушыла, потым знячэўку падмарозіла, а цяпер вось шкуматала ветрам, біла градам, залівала дажджамі. Пацярпелі два дзесяткі раёнаў — на Віцебшчыне (асабліва), Магілёўшчыне і Гомельшчыне. Панішчаны сотні гектараў пасеваў, пашкоджаны многія будынкі, абясточана 700 вёсак і 350 жывёлагадоўчых ферм. Ёсць чалавечая ахвяра — загінула 45-гадовая жанчына... За што ж ты нас гэтак караеш, Божа? Чым мы, твае дзеці, правінаваціліся перад Табою?.. А ў гэты ж самы час у славутых Аўцюках пад Калінкавічамі спявала-смяялася свята народнага гумару... А й праўда, вялікая краіна — наша Беларусь...***

## *СУАДНОСІНЫ ТЫДНЯ*

Паводле апошняга (леташняга) перапісу насельніцтва, у Беларусі было 4 млн. 717,6 тыс. мужчын і 5 млн. 327,6 тыс. жанчын. Агульная суадносіна такая: на 1000 мужчын прыпадала 1129 жанчын. Нармалёва, як любяць казаць прыхільнікі "тарашкевіцы". Аднак жа зусім іншая карціна — ва ўзроставых групах. Сярод дзяцей хлопчыкаў, наадварот, намнога больш, чым дзяўчынак. У падлеткавым і юначым узростах адных і другіх прыкладна пароўну. А недзе пасля 25 гадоў дзяўчат становіцца ўжо больш, хоць і не намнога. Суадносіна рэзка расце з узростам. Калі ласка, ва ўзросце ад 55 да 59 гадоў на 1000 мужчын ужо 1249 жанчын, ад 60 да 64 гадоў — 1387, ад 65 да 69 — 1549, ад 70 і старэй на 1000 мужчын прыпадае ўжо ажно 2412 жанчын. Ах, праклятая гарэліца-беліца і тытунёк-смактунок, што ж вы робіце з моцным полам?!..

## *АБІТУРЫЕНТКА ТЫДНЯ*

Студэнткай нямецкага факультэта лінгвістычнага універсітэта хоча стаць 76-гадовая настаўніца-пенсіянерка. Калі яе залічаць, ёй давядзецца плаціць штогод за навучанне ад 700 да 1000 долараў, бо жанчына ўжо мае адну вышэйшую адукацыю. Абітурыентка ў адказ на папярэджанне заявіла, што яна зможа аплачваць вучобу — яна мае двухпакаёвую кватэру. Маўляў, не багатырка, але й не галадранка! Значыць, можа быць і ў нас бабуля-студэнтка, а то ўсё ў іх ды ў іх...

## *НАПОІ ТЫДНЯ*

У Ялце прайшоў Міжнародны конкурс вінаградных він, каньякоў (брэндзі) і шампанскага. У "алкагольным турніры" бралі ўдзел амаль 200 заводаў з 17 краін, у тым ліку і наш мінскі "Крышталь". І што? Мінчукі былі прадстаўлены толькі ў раздзеле "каньякі". І за 4 ўзоры атрымалі 4 медалі: залаты — за каньяк "Карсар", тры сярэбраныя — за брэндзі "Консул" і за каньякі "Экзюперы" і "Глорыя". Усцешна? Нібыта, бо — нашы ж якніяк напоі. Але й смешна: Беларусь — краіна каньякоў! Дальбог жа, гэта напамінае колішняе: "СССР — радзіма сланоў..."

## *ПАДВЫШКА ТЫДНЯ*

З серады падаражэла аўтамабільнае паліва: у сярднім ад 3 да 7 працэнтаў. Самыя ходкія гатункі бензіну А-76 і А-92 зараз каштуюць адпаведна 263 рублі (падвышка на 7,2 працэнта) і 358 рублёў (2,9 працэнта). На магістралі Брэст—Масква гэты ж самы бензін на 5—8 рублёў даражэй. Невялікая падвышка? Быццам сапраўды невялікая. Але калі яна робіцца часта, ці не штомесячна? То-та і яно-та, як той казаў...

## *"КАПІТАН" ТЫДНЯ*

Газета "Белорусская нива" па-свойму, як гэта яна любіць рабіць, адгукнулася на прызначэнне новага міністра сельгасхарчу (якога па ліку?). Пра гэтую падзею яна паведаміла інфармацыяй пад загалоўкам: "У аграрного корабля — новый капитан". Ну любяць у "Белорусской ниве" чыста савецка-бальшавіцкія газетныя прыёмы, штампы і шаблоны! Па прынцыпе: "Дядя, сделай нам красиво!" Аднак жа — ці "красиво" ад гэтага "капитану" — Юрыю Дзмітрыевічу Марозу? Ён то добра ведае, які карабель дастаўся яму ў спадчыну, і таму наўрад ці рады свайму прызначэнню. А, можа, мы памыляемся? Не, наўрад. Ужо толькі 20 мільярдаў нявыплачаных заробкаў працаўнікам калгасаў і саўгасаў трымаюць наш сельскагаспадарчы "карабель" значна ніжэй ватэрлініі...

## *ПАРУШЭННІ ТЫДНЯ*

Кароткае газетнае паведамленне аб тым, што Камітэт дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці праверыў у першым паўгоддзі 694 суб'екты народнай гаспадаркі. Запыняе ўвагу не лічба: сама па сабе яна нічога не гаворыць. Сапраўды, многа гэта ці мала? Хто яго ведае. Лічба пачынае "працаваць" у супастаўленні з другой: аказваецца, у 662 суб'ектах з праверaных выяўлены парушэнні. Амаль што ў кожным. Дык што ж гэта робіцца? Усюды, лічы, парушэнні? Куды ні заглянеш? Дык у якой краіне мы жывём? І куды глядзіць завершаная, забяспечаная адказнымі кадрамі "вертыкаль"?

## *ПРОДАЖ ТЫДНЯ*

У друку праскочыла інфармацыя аб тым, што "Форд Мотар Компані" дасягнуў дамоўленасці аб продажы свайго кантрольнага пакета акцый у беларуска-амерыканскім СП "Форд Юніён" адной англійскай кампаніі, якая займаецца выпускам вырабаў з пластмасы. Перадачу кантрольнага пакета плануецца завяршыць 31 ліпеня г.г. Што гэта ўсё азначае і які лёс чакае надта ж разрэкламаваны ў свой час завод пад Мінскам па зборцы фордаў — у інфармацыі не гаворыцца...

## *"МАЛАЙЦЫ" ТЫДНЯ*

У Непале праводзіўся конкурс прыгажосці "Міс Непал-2000" — для моды і Гімалаі не перашкода. Ды не ўсім ён прыйшоўся даспадобы. Паліцыя арыштавала больш за 200 чалавек, якія пратэставалі супраць правядзення конкурсу, называлі яго "эратычным балаганам" і заяўлялі, што ён наладжаны на патрэбу эліты дзеля грошай і, галоўнае, супярэчыць нацыянальнай культуры і традыцыям. Малайцы непальцы! А мы? Мы — не непальцы, а таму мы хутчэй — малайцы, а не малайцы...

## *АРЭНДА ТЫДНЯ*

На дзесяць гадоў у арэнду Баранавіцкаму аддзяленню Беларускай чыгункі перадаецца возера Свіцязь. Наваградскі райсавет задаволіў просьбу чыгуначнікаў, якія хадайнічалі аб такой перадачы. Новыя гаспадары маюць намер палепшыць арганізацыю летняга адпачынку турыстаў. Кантроль за возерам, якое ўваходзіць у ландшафтны заказнік, з боку санітарных служб і прыродаахоўчых органаў захаваецца. Вось такая ява нашых дзён. Славутая паэтычная Свіцязь — і ў арэнду?! Розум нібыта і ўспрымае, а душа — не прымае...

ФЕСТЫВАЛІ

# "Магутны Божа" паяднаў суседзяў

Заўсёднікі Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа", што ўжо восьмы раз прайшоў у Магілёве, адзначалі: сёлета свята атрымалася камернае, без колішняга размаху. У найскладаных фінансавых умовах, на вялікі жаль, не спраўдзілася надзея арганізатараў — Магілёўскага гарвыканкама — на падтрымку з боку абласных уладаў і Міністэрства культуры Беларусі. Тым не менш, свята ўдалося і выканала сваю галоўную высакародную місію: яднанне людзей праз спрычыненне да высокіх мастацкіх ідэалаў, узаемапранікненне, узаемадзеянне, узаемаўплыў, узаемаўзбагачэнне розных культур і духоўных традыцый, мастацкіх каштоўнасцяў Усходу і Захаду.

Сёлета не было конкурсу вакалістаў, а спаборніцтва харавых калектываў праходзіла менш напружана, чым у ранейшыя гады. Канкурсантаў аказалася толькі восем, і ніводны калектыў не застаўся без узнагароды. (Дарэчы, журы складалася з ужо сталых чыннікаў "Магутнага Божа": знаныя беларускія вакалісты Л. Каспорская ды В. Скарабагатаў, піцерскі кампазітар і даследчык музычнай культуры І. Мацieўскі, супрацоўнік Лонданскай бібліятэкі імя Ф. Скарыны Г. Пікарда і старшыня "судзейскай суполкі" шаноўны маэстра В. Роўда).

Вынікі такія. Гран-пры дастаўся дзяўчатам з Украіны — хору "Зозуленька" з Крывога Рога. Першае месца сярод царкоўных калектываў заняў хор "Голас душы" парафіі св. Сымона і св. Алены з Мінска (Чырвоны касцёл), які таксама атрымаў дыплом за лепшае выкананне малітвы "Ave Maria". Першым сярод вакальных ансамбляў названы калектыў Магілёўскага музычнага вучылішча "Con Anima", а яго кіраўнік, дарэчы, адна з даўніх арганізатараў фестывалю, Жанета Ялфімава адзначана як лепшы дырыжор на сёлетнім конкурсе. Лаўрэаты 2-й і 3-й прэмій — "Спяваючыя хлопчыкі" з Торуні (яны ж заваявалі прыз глядацкіх сімпатый), хор з Гайнаўкі, два дзіцячыя калектывы з Барысава і хор з Львова. Такім чынам, сустрэліся ў Магілёве, паспаборнічалі ды пасябравалі маладыя галасы з краін-суседак.

Апроч конкурсных выступленняў, у магілёўскім касцёле св. Станіслава (пробашч якога ксёндз Р. Факсіньскі актыўна паспрыяў у арганізацыі ды правядзенні фестывалю) адбываліся вечаровыя канцэрты. Іх удзельнікам быў, сярод іншых, лаўрэат самага першага фестывалю "Магутны Божа", тады яшчэ зусім малады безыменны хор з Маладзечна, а цяпер — Мінская абласная капэла "Sonorus", якой кіруе знаны ўжо далёка за межамі Беларусі маэстра А. Шут. Ладкаваліся і традыцыйныя вечаровыя сустрэчы маладзёжных музычных калектываў на пляцоўцы пад вольным небам. Урачыста прайшлі цырымоніі адкрыцця і закрыцця ў Палацы "Хімвалакно"...

Фестываль мінуў, пакінуўшы надзею, што наступным летам, з 11 па 16 ліпеня, "Магутны Божа", як заўсёды, збярэ сваіх старых і новых сяброў. Ужо дзевяты год запар.

**Н. К.**

МАГУТНЫ БОЖА
Беларусь Магілёў

*На здымках: моманты фестывалю.*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Сярод удзельнікаў беларускай дэлегацыі на Днях культуры нашай краіны ў Малдове быў старшыня таварыства "Беларусь-Малдова" пісьменнік Уладзімір Скарынкін. Сярод яго шматлікіх сустрэч была і сустрэча з сябрамі паэтычнага гурта беларускай дыяспары ў Малдове, якія перадалі на адрас нашай пісьменніцкай арганізацыі зварот, у якім яны просяць падтрымкі і садзейнічання ў далейшым творчым станаўленні аўтараў, якія жывуць і працуюць у Малдове.

Дарэчы, у сябе ў краіне літгуртк коўцы-беларусы паспелі выдаць паэтычныя зборнікі "Родны кут", "Беларуская душа", кнігу вершаў Івана Батрачкіна "Летуценнік".

Аўтары звароту выказалі надзею, што з цягам часу ў Малдове могуць з'явіцца сярод беларускай дыяспары цікавыя таленавітыя аўтары, якія папоўняць сям'ю беларускіх пісьменнікаў.

●

Запрашэнне прыняць удзел у свяце паэзіі, прысвечаным 120-й гадавіне з дня нараджэння Аляксандра Блока, прыслаў у Саюз пісьменнікаў старшыня аргкамітэта свята намеснік старшыні Пінскага райвыканкама Д. Лемяшэўскі. Як вядома, славуты рускі паэт жыў на Піншчыне ў 1916 годзе.

6 жніўня ў вёску Калбы, дзе адбудзецца свята, прыедуць паэты з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Украіны. Сярод запрошаных на гэты фэст — паэты з Мінска, Брэста, Пінска.

●

Сустрэча, прысвечаная творчасці Уладзіміра Караткевіча, адбылася ў бібліятэцы пісьменніцкай арганізацыі. Яе ўдзельнікамі сталі выхаванцы экалагічнага летніка "Юбілейны", вучні 9—10-х класаў школ Беларусі, якія цікавяцца літаратурай і гісторыяй роднага краю.

Пра жыццёвы і творчы шлях У. Караткевіча гаварылі Адам Мальдзіс, Сяргей Панізнік, Міхась Тычына, Іван Чыгрын, вядучы сустрэчы Навум Гальпяровіч.

Песню са спектакля па творах Караткевіча выканаў Аляксей Галіч.

**Н. К.**

# ТЮГ просіць дапамогі

Прэзідыумы Беларускага рэспубліканскага камітэта і Мінскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры звярнуліся ў Адміністрацыю Прэзідэнта, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарвыканкам і Міністэрства культуры. Прычына звароту — жабрацкія заробкі творчага і абслугоўваючага персаналу Тэатра юнага гледача. У звароце адзначана, што "памер аплаты працы, які вагаецца ў межах 14—22 тысяч рублёў, няхай і павялічаны зараз на 40 працэнтаў, пры інфляцыйных працэсах, асабліва абвостраных у ліпені бягучага года, ніякім чынам не забяспечвае элементарнага пражытачнага мінімуму". Між тым, сход працоўнага калектыву перакананы, што ТЮГ у яшчэ не адпрацаванай у метадалагічных і арганізацыйных аспектах сістэме выхаваўчай работы з дзецьмі і моладдзю з'яўляецца на сёння адзінай і унікальнай жыццядзейнай структурай, якая ўплывае на станаўленне маладой асобы. Спецыфіка акцёрскай працы вымагае значна большай псіхалагічнай напружанасці ў працэсе падрыхтоўкі і пракату спектакляў, чым у іншых драмкалектывах, нюансы амплуа, разнажанравасць і рознастылёвасць выканання, улік узроставых рамкаў вобраза...

Усё гэта, як падкрэслена ў звароце, дае падставу для прысваення Беларускаму рэспубліканскаму тэатру юнага гледача статуса Нацыянальнага драматычнага тэатра з вызначэннем адпаведнага фінансавага фонду заахвочвання працоўнага калектыву. Натуральна, на гэта спатрэбіцца час. Складальнікі звароту прапаноўваюць на гэты прамежак увесці для тэатра ў дзеянне палажэнні Указа Прэзідэнта РБ N 770 ад 29 снежня мінулага года (п. 4), які прадастаўляе тэатральна-відовішчным прадпрыемствам правы ўстанаўліваць свабодныя цэны на білеты ў межах 75 працэнтаў агульнай колькасці месц у глядзельнай зале, накіраваўшы такім чынам дадаткова атрыманыя сродкі ў фонд накаплення і спажывання Тэатра юнага гледача.

Зварот ад імя прэзідыумаў падпісалі старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры Л. Сушкевіч і старшыня Мінскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры У. Мамонька.

З НАГОДЫ

# Калі слова забівае...

Быў нядаўна ў "белакаменнай", купіў там выпадкова праханаўскую газету "Завтра" (N 22 за сёлетні год). Адзін са знаёмых масквічоў параіў: "В поезде по дороге в свой Минск скучать не будешь. Круто мужики пишут! Правда, банальным национал-социализмом попахивает, но главное, что "катят бочку" против Путина, хотя за союз России с вашей Белоруссией горой стоят..."

Размясціўшыся ў купэ, разгарнуў газетку. І адразу звярнуў увагу на "палосны" артыкул Яўгенія Росцікава "Толпа". Назва эмоцый не выклікала (натоўп — справа звычайная), а вось рубрыка — "Белая Русь" — па вачах разанула. Што там зноў пра нас? Ва ўрэзцы да артыкула не без хвалявання прачытаў: "Кажется, впервые за почти пять лет своей власти Лукашенко был так растерян, смятен. Он осторожно спустился до первого пролета подземного перехода и, чуть помедлив, положил на поручни его букет красных гвоздик. Затем, боясь, что они не удержатся на этой отшлифованной тысячами ладоней трубе и упадут, рассыпятся по тщательно вымытым от крови ступеням, еще раз поправил цветы и неуверенно, с какой-то даже опаской подошел к поджидающим его этим ранним утром журналистам.

То, что случилось здесь на переходе к станции "Немига" несколько часов назад, вечером 30 мая, белорусский президент назовет чудовищной, необъяснимой трагедией... "Горе всегда объединяет людей", — отметит он и выразит надежду, что случившееся не станет причиной раскола общества. Президент предостережет тех, кто попытается использовать эту трагедию для разыгрывания своей политической карты..."

Артыкул прымеркаваны да гадавіны трагічных падзей на нашай "Нямізе". Відаць, для таго, каб яшчэ раз аддаць належнае светлай памяці заўчасна загінуўшых. Усё натуральна, у "параметрах", так бы мовіць, агульначалавечых каштоўнасцяў і хрысціянскіх запаветаў. Падумалася, што Я. Росцікаў спакойна і без надрыву прапануе свой, незаангажаваны пункт гледжання на нацыянальную трагедыю, паспрабуе данесці да братняй дзяржавы той боль, якім і па сённяшні дзень жыве Беларусь.

Аднак я памыліўся! Аўтару (натуральна, і газеце!) няма ніякіх спраў да агульначалавечых гуманістычных "умоўнасцяў". Даруйце, але зноў цытую Я. Росцікава:

"Лукашенко, наивная душа, еще надеялся, что эта кошмарная трагедия консолидирует, сплотит общество. Но такой момент его грязненькая оппозиция, конечно же, не могла упустить. Можно было не только переключить внимание общественности от закономерного фиаско, но и начать свою новую раскрутку, используя для этого кровь погибших. Толпы друзей народа и "отцов белорусской демократии" ринулись в палаты раненых. Да если бы одни... А то в окружении своры с видеокамерами и фотоаппаратами.

В прессе появилось заявление бэнээфовских лидеров и их все еще трепыхающихся помогатых — Шушкевича и Шарецкого — под категорическим названием "Ответственность за кровь 30 мая несет режим Лукашенко".

Зашумели и "женщины-матери"... Они свои требования заявляли конкретно: "Не можете обеспечить безопасность ни в политике, ни в экономике, ни в жизни — уходите, дайте дорогу другим".

Кому? "Матери" не назвали. Но и без фамилий было ясно: тем, кто заказывал "похоронную музыку".

Далей Я. Росцікаў "разбіраючыся ў вытоках трагедыі", катэгарычна зазначае: "нельзя обойти стороной родителей погибших детей. И как это не больно будет признать, сказать о той действительно главной роли, которую они должны были сыграть, но ничего не сделали, чтобы спасти, уберечь своих самых дорогих людей. Они, войдя во вкус неожиданно свалившихся льгот и поблажек, бегали по салонам "Счастье", наряжая своих мертвых девочек в бесплатные подвенечные платья, перезахоранивали их с одного престижного кладбища на другое... Люди, приходящие на эти кладбища, чтобы помянуть действительно заслуженных, отдавших все силы, жизнь для своего народа, страны, с недоумением и растерянностью смотрели на этот безудержный энтузиазм родителей... Говорят, ни один человек в республике не получал еще таких льгот и привилегий... В том, что погибли их дети, считаю, виноваты прежде всего они сами".

Ці не хопіць цытат? Усё зразумела. Зброя публіцыста — слова. І гэтай зброяй Росцікаў валодае віртуозна. Ды, на жаль, цынічна. Не лечыць і дапамагае, а ганьбіць. Ягоная логіка простая: алагізм і дэмагогія, не заявіш аб сабе — не заробіш. Слова — адзенне душы. Калі з душэўнасцю праблемы, дык і "адзенне" адпаведнае.

**Аляксандр АЛЬХАВОЙ,**
**лаўрэат прэміі**
**імя Анатоля Майсені**

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## "Аўцюкі-2000"

У трэці раз на калінкавіцкай зямлі прайшоў Усебеларускі фестываль гумару "Аўцюкі-2000". На вялікае свята прыехалі госці з усіх абласцей Беларусі, а таксама з Расіі і Украіны. У рамках фестывалю прайшлі канцэрты прафесійных і самадзейных артыстаў, забаўляльныя праграмы, конкурсы на лепшы анекдот і падворак, спартыўныя спаборніцтвы, а таксама святы вёсак Вялікія і Малыя Аўцюкі. А для дзяцей працаваў гарадок забаў.

## Экспедыцыя па Бесядзі

У Веткаўскім музеі народнай творчасці, дзе сабраны каштоўнейшыя экспанаты нашай культуры, вялікае месца надаецца і навуковай рабоце. Яго дырэктарка Галіна Нячаева арганізавала этнаграфічную экспедыцыю ўздоўж ракі Бесядзь, якая бярэ пачатак на Смаленшчыне, а ўпадае ў Сож непадалёк ад Веткі. У падарожжа адправілася група этнографаў і археолагаў у складзе дзесяці чалавек. У час вандроўкі навукоўцы сабралі цікавы матэрыял аб жыцці народа, знайшлі новыя рэчы народнага мастацтва, запісалі абрадавыя і рытуальныя песні. Вынікам экспедыцыі стала выстава, якая адкрылася гэтымі днямі ў Гомельскім філіяле веткаўскага музея.

## Выстава мазыраніна

Мазыранін Мікалай Дубрава атрымаў прафесійную падрыхтоўку ў Пензенскай мастацкай вучэльні і Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Карціны, пейзажы, партрэты мастака выкананы ў тэхніцы алею і акварэлі. Уся творчасць Мікалая Дубравы — натхнёны аповед мовай палітры пра родную Мазыршчыну. Мастак падрыхтаваў серыю новых работ для персанальнай выставы ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Успамін аб садзе

Да 125-годдзя з дня нараджэння выдатнага беларускага батаніка Уладзіміра Адамава ў вёсцы Вялікія Лётцы, дзе навуковец жыў і працаваў паўстагоддзя (да пачатку 30-ых гадоў), была ўрачыста адкрыта мемарыяльная дошка. Менавіта ў гэтым кутку Віцебшчыны Уладзімір Уладзіміравіч заснаваў у 1890 годзе батанічны і вопытна-акліматызацыйны сады, займаўся вывучэннем і развядзеннем лекавых раслін. Сад, у якім расло 400 рэдкіх дрэў, больш за дзве тысячы відаў іншых, дробных, раслін, быў добра вядомы за межамі краіны. На жаль, сёння славуты сад амаль не захаваўся, а стары дом патрабуе рамонту... Дошку ў гонар земляка паклапаціўся адкрыць Віцебскі краязнаўчы фонд імя Сапунова.

**Святлана ГУК**

БРЭСТЧЫНА...

## На крылах душы

Жыхары вёскі Стараволя Пружанскага раёна здаўна ведалі, што дырэктарка іхняй школы-васьмігодкі Валянціна Слабада піша вершы і музыку, цудоўна спявае ўласныя і народныя песні. І ўсё ж аўтарскі вечар гэтай таленавітай і жыццерадаснай жанчыны ўразіў землякоў. Упершыню яны пачулі гэтульмі песняў і вершаў, проста шчырых і зычлівых слоў. Не стаміліся яны слухаць і з тае прычыны, што Валянціна Мацвееўна спявала не толькі сама, а і са сваімі родзічамі: мужам, братам, дачкою, сынам і нават унукамі. А невялічкую кніжку ўласных тэкстаў з нотамі аўтарка назвала дакладна і хораша — "На крылах душы". Дапамагла ў выданні гэтага зборнічка рэдакцыя пружанскай газеты "Раённыя будні".

## З пазнакаю прафесіяналізму

Абласны грамадска-культурны Цэнтр працягвае знаёміць жыхароў горада з творчасцю мастакоў з самых розных куткоў Брэстчыны. На гэты раз выставачная зала аддадзена пад творы баранавіцкіх жывапісцаў, якія не з'яўляюцца сябрамі Саюза мастакоў. Экспазіцыя атрымалася даволі багатай на стылі і жанры. Уражваюць, напрыклад, палёт фантазіі ў сюжэтных карцінах А. Багданава, псіхалагічная насычанасць — у партрэтах А. Ганчара. А В. Санюк сваім пейзажам "Непагадзь" асабліва яскрава засведчыў, што ў Баранавічах з'яўляюцца новыя мастакі-прафесіяналы.

**Сымон АКСЕНІН**

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## На першым месцы — харавы ансамбль

У Магілёве завяршыўся міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа". Сярод пераможцаў — і магілёўчане. Першае месца ў намінацыі "дзіцячыя і маладзёжныя калектывы" заняў харавы ансамбль "Con Anima" Магілёўскай музычнай вучэльні імя Рымскага-Корсакава пад кіраўніцтвам Жанеты Ялфімавай.

## Партрэты праведнікаў

У Магілёўскім краязнаўчым музеі адкрыта персанальная выстава фотакарэспандэнта газеты "Звязда" Анатоля Клешчука. У экспазіцыі — 50 жанравых партрэтаў жыхароў Беларусі, якія ў гады апошняй вайны ратавалі яўрэяў ад фашысцкай навалы і зараз маюць званне "Праведнікі народаў свету".

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## "Дойлідства" — у Італіі

Пад беларускім сцягам прайшлі па вуліцах італьянскага горада Клузон у акрузе Бергама ўдзельнікі Гродзенскага хору праваслаўнай і духоўнай музыкі "Дойлідства", які кіруе Наталля Бульцэвіч. Харысты прымалі ўдзел у парадзе, прымеркаваным да адкрыцця шостага міжнароднага харавога фестывалю — аднаго з буйнейшых у Еўропе музычных форумаў азначанага жанру. У свяце бралі ўдзел 50 творчых калектываў. Хор "Дойлідства" даў 6 канцэртаў і запісаў у Італіі кампакт-дыск з уласнымі творамі.

## Новая спецыяльнасць

Новая спецыяльнасць адкрываецца ў Гродзенскай вучэльні мастацтваў — "бібліятэчная справа". Выпускнікі атрымаюць кваліфікацыю бібліятэкара-бібліёграфа.

— Неабходнасць адкрыцця спецыяльнасці прадыктавана жыццём, — гаворыць адказны сакратар прыёмнай камісіі Наталля Якавец. — Справа ў тым, што 60 працэнтаў бібліятэчных работнікаў вобласці не маюць спецыяльнай адукацыі...

Форма навучання па новай спецыяльнасці — завочная. Тэрмін навучання — 2 гады.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

ТВОРЧАСЦЬ

# У сугуччы двух мастацтваў

Незвычайна цёплая душэўная атмасфера панавала ў Гасцёўні Ул. Галубка на вернісажы работ Наталлі Капшай. Гэтае прозвішча ў мастацтве не новае. Бацька Наталлі Уладзімір Міхайлавіч — вядомы беларускі жывапісец, маці Людміла Аляксандраўна — піяністка, педагог, загадчык фартэпіяннага аддзялення Мінскай ДМШ N 1. 21-гадовая Наталля ўвабрала ў сябе ўсё лепшае ад бацькоў.

Ігры на фартэпіяна яна пачала вучыцца з шасці гадоў. Ужо ў школе дзяўчынка пачала складаць музыку, у чым яе цярпліва, далікатна падтрымлівалі педагог і кампазітар Шушано Ісхакбаева. (Твор Наталлі "Заздраўная" на вершы А. С. Пушкіна ўключаны ў рэпертуар хору Беларускага таварыства інвалідаў па зроку). Сваю музычную адукацыю дзяўчына працягнула ў Мінскім музычным вучылішчы імя М. Глінкі ў знанага педагога Вадзіма Ільічова, а цяпер яна — студэнтка Беларускай акадэміі музыкі па класе Яўгена Пукста.

У дзень адкрыцця выставы яе пейзажаў, нацюрмортаў пасля цудоўнага прадстаўлення ўсхваляваная Наталля села за фартэпіяна. І на фоне з захапленнем намаляваных ружаў, бэзу, лілеяў, цюльпанаў, герберaў, цудоўнай прыроды загучалі творы І. С. Баха, Бетховена, Шапэна, Дэбюсі. Для выканання кожнага з іх піяністка знаходзіла свае фарбы, паўтаны. Атрымалася прываблівае спалучэнне двух сугучных мастацтваў.

Наталля гадавалася ў сям'і, дзе гучала музыка, дзе гасцямі былі і музыканты, і мастакі. "Мне з дзяцінства хацелася маляваць, — кажа яна. — Кожнае лета мы адпачывалі ў маляўнічым кутку — на Браслаўскіх азёрах. Мяне хвалявала прыгажосць прыроды, але я доўга не рашалася ўзяцца за пэндзаль". Упершыню паспрабавала маляваць у 10-гадовым узросце, па начах нават прыдумвала сюжэты карцін.

Але пасля заканчэння 9-ці класаў вырашыла прысвяціць сябе музыцы. І вось калі паступіла ў Беларускую акадэмію музыкі, часу ў яе з'явілася трошкі больш. Наталля вырашыла заняцца вызначэнне мастацтвам.

Кветкі яна вельмі любіць і вельмі шкадуе, калі яны вянуць. Таму вырашыла пераносіць іх на палатно, быццам бы працягваючы іх жыццё. "Жывая прырода заўсёды прыцягвае, заваражвае, не дае быць абыякавай", — прызнаецца Наталля. Сур'ёзна яна пачала маляваць два гады таму, калі яе старэйшы брат Глеб, тады студэнт архітэктурнага факультэта Беларускай політэхнічнай акадэміі, выконваў заданне — нацюрморт. Наталля захацела зрабіць такі ж нацюрморт.

Спачатку ўзялася за акварэль. (Бацька паказаў ёй, як трэба разводзіць фарбы). Потым асвоіла алейныя фарбы — праз кансультацыі Уладзіміра Міхайлавіча.

Вынік гэтай двухгадовай працы і можна ўбачыць на выставе ў Гасцёўні Ул. Галубка.

Прысутныя цёпла віншавалі Наталлю, віталі яе ігру на вернісажы. Потым да інструмента выйшла і маці — Людміла Аляксандраўна, сыграла два вальсы Шапэна. Далей — болей: эстафету пераняла кампазітар Шушано Ісхакбаева, якая выканала ўласныя творы. І так у суладдзі двух цудоўных мастацтваў прайшла гэтая імпрэза.

**Вера КРОЗ**

*На здымку: за клавесінам — падчас турпаездкі ў Германію.*

ДРУК

# І змястоўна, і з густам

Часопіс "Наша вера", заснавальнікам якога з'яўляюцца Архікафедральны касцёл імя Найсвяцейшай Марыі Панны ў Мінску і Дабрачынны грамадскі фонд "Маці Божая Фацімская", належыць да выданняў, якія вызначаюцца і зместам і афармленнем. А да ўсяго ў ім публікуюцца матэрыялы, што даюць багатую спажыву для роздуму, дапамагаюць лепш і глыбей асэнсаваць наш сённяшні дзень і асобныя падзеі мінулага, а праз лёсы найбольш выдатных людзей адчуць, наколькі багатая на таленты наша зямля. Не выключэнне і першы ў сёлетнім годзе (11-ы з часу выхаду часопіса) нумар. Адкрываецца ён працягам "Энцыклікі" Яна Паўла II да біскупаў каталіцкага Касцёла пра адносіны паміж вераю і розумам (пераклад з польскай мовы галоўнага рэдактара "Нашай веры" Х. Ляльмо). Да 200-годдзя з дня нараджэння выдатнага мастака В. Ваньковіча прымеркаваны развагі В. Буйвала. Т. Габрусь выступае з артыкулам "З архітэктурнай спадчыны Сіроткі". А. Данільчык пераклала ўрывак з рамана італьянскага пісьменніка І. Сілонэ "Здарэнне з бедным хрысціянінам". Сюжэты Звеставання ў беларускім мастацтве разглядае А. Ярашэвіч ("І пачула голас..."). Змешчаны артыкулы У. Конана "Біблейскія і хрысціянскія матывы ў беларускай этнічнай культуры", Т. Ліхач "Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі". "Пераказаная памяць" Т. Казэцкай — спроба па-новаму зірнуць на творчасць І. Хруцкага. Нарыс пра вядомага беларускага славіста і арыенталіста М. Баброўскага А. Марціновіч назваў "Я дрэва з Белавежскай пушчы". Публікуюцца вершы М. Мятліцкага і М. Дуксы, літаратурны абразок "Паданне аб таямнічым святле" Ю. Віцьбіча і слова пра гэтага пісьменніка У. Дыдзіка "У імя найвялікшага ідэалу народа". І. Жарнасек ("Дарога апостальства") расказвае, як моцная вера зрабіла звычайную сялянскую дзяўчыну Ганну Дубовік з вёскі Круткі, што на Пастаўшчыне, "надзвычай мужнаю, высакароднаю і надзяліла яе духоўнаю прыгажосцю". "Беларускія каталікі — якія яны?" — над гэтым задумваецца П. Пшэцішэўскі.

## Погляд праз стагоддзі

На дзень св. апосталаў Пятра і Паўла Лявонпаль у Мёрскім раёне Віцебскай вобласці зноў адчуў сябе слаўнавядомым мястэчкам. Больш як тысяча вернікаў прайшлі хросным ходам да Еўфрасіннеўскага Крыжа, узведзенага там ва ўшанаванне 2000-годдзя хрысціянства і 100-годдзя селішча на беразе Дзвіны.

Новы помнік духоўнасці асвяцілі праваслаўныя і каталіцкі святары: Мікалай Рундо, Мікалай Мелех і Уладас Пятрайціс.

Пасля наведання музея радзімазнаўства, адрэстаўраванай да свята Калоны ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 г. адбылося тэатралізаванае прадстаўленне "Погляд праз стагоддзі". Каля прыступак былой графскай рэзідэнцыі Лапацінскіх выступілі супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь археолаг Вадзім Шадыра, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў Ірына Жарнасек, Франц Сіўко, Сяргей Панізнік, паэт з Дзісны Генадзь Дзямешка... Самі лявонпальцы паведалі многія цікавыя старонкі багатай гісторыі, іх роднаснага сужыцця з яўрэямі, палякамі, расказалі пра радаводныя повязі з далёкімі і суседнімі землямі. Да прыкладу, сям'я Генадзя Крупенькі прадставіла гасцям алейныя карціны сваяка — мастака Віктара Жаўняровіча. Наш знакаміты 87-гадовы зямляк жыве пад Парыжам. Адгукнуўся прывітальным лістом з Рыгі нашчадак шляхецкага роду Майгоніс Лапацінскі.

Лявонпальцы ўдзячныя пісьменніку Уладзіміру Арлову, які звёў іх з палачанінам Міколам Шарахам, а праз яго з Браніславам Пятровічам Сівым — генеральным дырэктарам ВА "Шкловалакно", дзе і былі выраблены для Лявонпаля Еўфрасіннеўскі Крыж.

Фэст у мястэчку быў настолькі ўдалы (пастараўся аргкамітэт, які ўзначаліў старшыня Мёрскага раённага Савета дэпутатаў Чэслаў Станіслававіч Кашкур), што і суседзі-дзісенцы паабяцалі зладзіць юбілей іх ахоўнага і гандлёвага пункта пад назвай Капец. А суседзі з Верхнядзвінскага раёна запрасілі налета ў Сар'ю — яшчэ адну рэзідэнцыю Лапацінскіх — на рэгіянальную канферэнцыю па вывучэнні генеалагічнага дрэва гэтага шляхецкага роду герба Любіч, дзе былі дзяржаўныя мужы, музыканты, вучоныя, літаратары. Так што ўгляданне ў прыдзвінскія стагоддзі ў Лявонпалі толькі пачалося.

С. ПАПАР

# Генрых ВАГНЕР

Беларуская музычная культура панесла незаменную страту — на 79 годзе пайшоў з жыцця кампазітар, народны артыст Беларусі, прафесар Генрых Матусавіч Вагнер.

Аўтар шматлікіх выдатных твораў самых разнастайных жанраў, сярод якіх оперы, балеты, сімфанічная музыка, камерна-вакальная, інструментальная, музыка да спектакляў і кінафільмаў, Г. М. Вагнер нарадзіўся 2 ліпеня 1922 года ў г. Жырардаў (Польшча).

Законцыў спачатку Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе фартэпіяна, а потым па класе кампазіцыі. Яго выкладчыкамі былі выдатныя беларускія дзеячы мастацтваў — кампазітар, народны артыст Беларусі прафесар А. В. Багатыроў, прафесар Р. І. Шаршэўскі. Багатае, поўнае драматызму і лірыкі, кахання і пяшчоты жыццё выдатнага беларускага кампазітара адлюстравалася ў яркіх, самабытных музычных творах. Яны захапляюць слухачоў дынамікай руху, нязгаснай энергіяй, жыццялюбствам і аптымізмам. Больш за ўсё кампазітара вабяць буйныя музычныя формы і жанры, у ліку якіх оперы, балеты, араторыі, кантаты, сімфоніі, паэмы. Відучае месца ў творчасці выдатнага беларускага кампазітара заняла патрыятычная тэматыка. У час Вялікай Айчыннай вайны кампазітар быў удзельнікам Франтавога тэатра, якім кіраваў народны артыст СССР Г. Менглет.

Мастацкаму стылю кампазітара ўласцівы лірыка і гумар, іронія і сарказм. Усё гэта і вызначае індывідуальны музычны стыль, які выяўляецца ў рэальным тэматычным матэрыяле, своеасаблівасцях яго выкладання, у разгорнутых меладычных пабудовах, багацці рытмікі. Кампазітар заўсёды імкнецца злучыць традыцыі беларускай музычнай культуры з сучаснасцю. Асабліва ярка гэтыя тэндэнцыі праявіліся ў фартэпіяннай музыцы, выдатным Майстрам якой ён быў. У скарбонку нацыянальнай музычнай культуры назаўсёды ўвайшлі оперы "Сцежкаю жыцця", "Ранак", балеты "Падстаўная нявеста", "Святло і цені", "Пасля балю", сюіты "Маладзёжная", "Прызнанне Радзіме", паэмы "Вечна жывыя", "Героям Брэста", "Чытаючы Васіля Быкава", канцэрты, сімфоніі, за чацвёртую ён атрымаў Дзяржаўную прэмію, уверцюры, камерна-вакальная, інструментальная музыка да драматычных спектакляў, кінафільмаў, тэле- і радыёпастановак.

Неацэнны ўклад Генрыха Матусавіча Вагнера ў беларускае нацыянальнае мастацтва. Яго імя, выдатнейшага беларускага кампазітара, назаўсёды ўвойдзе ў Летапіс музычнай культуры Беларусі.

**У. В. Ярмошын, М. У. Мясніковіч, У. П. Замяталін, М. І. Дзямчук, А. У. Сасноўскі, М. Я. Паўлаў, І. С. Андрэеў, А. М. Анісімаў, А. В. Багатыроў, М. П. Дрынеўскі, В. М. Елізар'еў, Л. К. Захлеўны, В. К. Іваноў, С. А. Картэс, А. П. Кірыенка, М. А. Казінец, І. М. Лучанок, А. Ю. Мдзівані, І. У. Алоўнікаў, Г. П. Праватораў, Д. Б. Смольскі, Л. Н. Ціханаў, М. Я. Фінберг, Э. С. Ханок.**

# Эдзі АГНЯЦВЕТ

Беларуская літаратура панесла цяжкую страту. 17 ліпеня на 87 годзе жыцця памерла вядомая паэтэса, што стаяла ля вытокаў беларускай дзіцячай літаратуры, Эдзі Агняцвет.

Эдзі Сямёнаўна Каган нарадзілася 11 кастрычніка 1913 года ў Мінску. Яшчэ ў дзіцячыя гады бацькі прывілі ёй любоў да класічнай літаратуры, пазнаёмілі з творчасцю беларускіх пісьменнікаў. Пасля заканчэння сямігодкі Э. Агняцвет была вучаніцай на мінскім машынабудаўнічым заводзе "Камунар", потым вучылася ў Мінскай прафтэхшколе будаўнікоў, там уступіла ў камсамол. У 1934 годзе скончыла творчае аддзяленне літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута, у 1936 — літаратурны факультэт. У 1934—1938 гадах працавала рэдактарам дзіцячага радыёвяшчання, пазней была кансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, супрацоўнікам аддзела паэзіі ў часопісе "Полымя рэвалюцыі". Падчас Вялікай Айчыннай вайны апынулася ў эвакуацыі ва Узбекістане. Пасля вайны працавала рэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве БССР.

Першыя творы Эдзі Агняцвет з'явіліся ў 1929 годзе ў газеце "Чырвоная змена". За доўгія гады плённай творчай дзейнасці пабачылі свет шматлікія зборнікі паэзіі: "Маё пакаленне", "Край мой родны", "Дарога ў будучыню", "Твае таварышы", "Беларуская рабіна", "Краіна маленства", "Доктар Смех", "Ад зярнятка да вясёлкі", "На дварэ алімпіяда" і многія іншыя. Актыўна займалася перакладчыцкай дзейнасцю. Пазнаёміла беларускага чытача з творамі П. Бэранжэ, Г. Апалінэра, П. Элюара, А. Экзюперы, з узорамі французскай паэзіі для дзяцей, перакладала творы А. Пушкіна, М. Някрасава, У. Маякоўскага, А. Барто, М. Ушакова, С. Нерыс, Л. Украінкі, Зульфіі і іншых, стварыла лібрэта некалькіх опер. Песні на словы Эдзі Агняцвет напісалі М. Аладаў, У. Алоўнікаў, А. Багатыроў, Г. Вагнер, Я. Глебаў, І. Лучанок, А. Туранкоў, Я. Цікоцкі, П. Падкавыраў, М. Чуркін, Э. Зарыцкі і іншыя.

Працоўныя заслугі Эдзі Сямёнаўны былі адзначаны ордэнам "Знак Пашаны", медалямі і Ганаровымі граматамі Вярхоўных Саветаў БССР і Узбекскай ССР. У 1986 годзе Міжнародны савет па дзіцячай і юнацкай літаратуры ўзнагародзіў яе ганаровым дыпломам за кнігу "На дварэ алімпіяда".

Ад нас пайшла паэтэса чулага сэрца, добрай душы і вялікага таленту. Памяць аб Эдзі Агняцвет назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

**Рэдакцыя часопіса "Вясёлка" смуткуе з выпадку смерці вядомай беларускай паэтэсы, члена рэдкалегіі часопіса Эдзі Сямёнаўны АГНЯЦВЕТ і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

# І смутак і святло...

Памерла Эдзі Агняцвет.

Бог падараваў ёй добры, светлы талент. Паслаў доўгае жыццё і доўгія, цяжкія пакуты...

Памерла Эдзі Агняцвет.

З яе адыходам у бязмежнай журбе склала і апусціла крылы цэлая эпоха дзіцячай літаратуры, непаўторнай дзіцячай казкі, бесклапотных, шчаслівых песень дзяцей.

У Эдзі не было ўласных дзяцей, і да грудзей сваіх горача туліла яна ўсіх чытачоў сваіх шматлікіх кніжак, захапляла і цешыла іх песнямі, што пісалі на яе вершы славутыя беларускія кампазітары. Да яе, як дадому, да шчодрае прыветнае маці ішлі маленькія яе суседзі з усяго двара... Яны добра ведалі: там іх чакае вясёлае частаванне вершамі, спевамі пад музыку ("Маё старое піяніна") самое паэткі. Ну, і, вядома ж, частаванне найсмачнейшымі ласункамі...

І гэта агульнае свята — дзіўна, але пэўна так — найболей заставалася святам душы самое Эдзі Агняцвет. Яно поўніла яе творчым агнём, яно ўскрыляла яе. Без такіх узрушэнняў душы п а э т і п а э з і я марнеюць.

Аднак т о л ь к і стыхія дзіцячай літаратуры, дзіцячай паэзіі не з'яўлялася, не было т о й Эдзі Агняцвет, якую звычна было "праводзіць" па афіцыйных "рэестрах" беларускай літаратуры.

"І смутак і святло" — параўнаўча зусім не так даўно з'явілася невялікая кніжачка — вядома ж, як звычайна цяпер выдаецца беларускае слова — з'явілася нязначным накладам і мала кім была заўважана і тым больш адзначана ў друку... Са старонак гэтай кніжачкі гучаў голас даўно вядомай і на гэты раз незнаёмай паэткі Эдзі Агняцвет.

"І смутак і святло" — лірычная споведзь перад чытачом, яе боль і клопат пра людскую адзіноту і замкнёнасць чалавечых душ, пра недавер і недабрыню і неспагаду чалавека да чалавека.

*Сярод турбот мы адвыкаем*<br>
*І ад сустрэч, і ад лістоў.*<br>
*Як дзверы, сэрцы замыкаем*<br>
*Ад злодзеяў і ад сяброў...*

І, напэўна ж, ратаванне сваё знойдзе чалавек толькі тады, калі здолее, як зноў жа гучыць у адным з Эдзіных паэтычных радкоў, "душой маліцца".

Знайдзіце ў бібліятэцы паэтычную кніжачку "І смутак і святло". Прачытайце яе!

Больш сваіх вершаў Эдзі Агняцвет нам не напіша...

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

## Гукі незваротнасці

Памяці Эдзі Сямёнаўны АГНЯЦВЕТ

*Птушкі гнёзды з валаскоў*<br>
*зямных і моху ўюць,*<br>
*Каб ім жыць, спяваць і набіраць узлёт.*<br>
*Нас жа гукі незваротнасці палохаюць,*<br>
*Як на мяжы паміж*<br>
*суседзяў шчыльны плот.*

*Пошчак гэтых гукаў адчуваем мы*<br>
*Ў груку колаў, стуку, шорганні лапат.*<br>
*Над гаючаю зямлёй магіл капаемых,*<br>
*Як выносяць душы ў дамавінах з хат.*

*Мы ніколі не імкнёмся*<br>
*да чужых варот ісці,*<br>
*Шмат сваіх у кожнага ёсць*<br>
*для жыцця асноў.*<br>
*Толькі часта слухаем гукі незваротнасці*<br>
*Ў прывідах нядзейсненых*<br>
*і раптоўных сноў.*

*Але сны праходзяць,*<br>
*застаецца толькі ява,*<br>
*Каб кожны змог сваё штосьсь*<br>
*у жыцці зрабіць.*<br>
*Бо неўміручая заўсёды тая з'ява,*<br>
*Якая тчэ бясконцую любові, дружбы ніць.*

*Усюды чуем пульс мы гэтай ніці тонкай,*<br>
*Якую маці ткала, круцячы свой калаўрот,*<br>
*За незваротнасцю ж*<br>
*над роднаю старонкай*<br>
*Ідзе адвечны з неба на зямлю зварот.*

*Бывай, спявачка, родная Беларусі,*<br>
*Ты ў іншы адыходзіш ціхі свет,*<br>
*Але не можа заставацца ў скрусе*<br>
*Жывы заўсёды, непагасны творчы цвет!*

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

18 ліпеня 2000 г.

## Непазбежнае

*Эпоха нас і мучыла, і жучыла,*<br>
*Хоць і для ўсіх свяціла жырандоль.*<br>
*З асобым гартам змагары жывучыя*<br>
*Сыходзяць па чарзе ў чэрствы дол.*

*І не спытаўшы тытула ні прозвішча,*<br>
*Пад тлумны вэрхал галак і варон,*<br>
*Цераз біздонне душы перавозячы,*<br>
*Яе чакаў хіба адзін Харон?!*

*Хаця яны маўклівыя і скрытныя,*<br>
*Што помняць Калыму і Качкатаў,*<br>
*Яе пісьмёны знаюць з манускрыптамі,*<br>
*Якіх ніхто, як след, не расчытаў.*

*Нашто ў сакрэтах спрытныя біёграфы,*<br>
*І — тыя ў манускрыптах ні гу-гу!*<br>
*Закручаны так часам іерогліфы,*<br>
*Што скруціць там і чорт сабе нагу!*

*У іх пра ўсіх, на рэшата прасеяных,*<br>
*Ратаяў ад пяра і ад сахі,*<br>
*Ды у такое месца пераселеных,*<br>
*Дзе ўрэшце ўсе сыходзяцца шляхі.*

*Рыданні родных — горкімі рыданнямі!*<br>
*Маўчаць адны за вокнамі гракі.*<br>
*У гэты дзень ці трэба нам пра даўняе,*<br>
*Пра колішнія беды і грахі?!*

*Хай князь удзельны, з вотчынай удзельнаю,*<br>
*Ці злодзей і апошні канакрад, —*<br>
*Ніхто не будзе анічым абдзелены,*<br>
*А знойдзецца мясціна і пасад.*

*Гаркотна, хоць яна мне і не дзядзіна.*<br>
*Аркестр грыміць, ажно ірве гартань.*<br>
*Яе, што з рук у рукі перададзена,*<br>
*Як прымуць т а м?*<br>
*І як сустрэнуць т а м?*

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

## Завяршыўся прэм'ерай!

Як вядома, ліпень — час пачатку адпачынкаў і закрыцця сезонаў у большасці тэатраў нашай краіны. На гэты раз у Беларускім Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа закрыццё сезона святкавалі новай прэм'ерай, якая адбылася 2 чэрвеня.

Рэжысёр Антон Грышкевіч даўно вядомы публіцы як наватар рэжысуры, шукальнік нетрадыцыйнай драматургічнай фабулы і стваральнік новых сцэнічных вобразных формаў. І зараз ён быў нечаканы. Новая пастаноўка А. Грышкевіча "Карагод закаханых" па п'есе аўстрыйскага драматурга Артура Шніцлера засведчыла еўрапейскі ўзровень рэжысуры. Шырокае тэатральнае відовішча. І зараз А. Грышкевіч скарыстаў шанц, каб нагадаць аб сабе не толькі як аб пастаноўшчыку псіхалагічнага мінімалізму, але і як аб стваральніку вялікіх сцэнічных рэчаў. "Карагод закаханых" — музычна-драматычнае шоу, якое пабудавана не толькі на драматычным дзеянні. Аснову спектакля склаў балет, дзе сам танец выступае, як вобраз XX веку, бо, як кажа Грышкевіч: "Непасрэдна п'еса дала магчымасць па-філасофску падысці да гісторыі чалавецтва ў мінаючым стагоддзі, паразважаць над галоўнымі каштоўнасцямі жыцця — каханнем, міласэрнасцю, годнасцю на парозе новага тысячагоддзя. Гэты спектакль — ёсць гімн XX веку. А чаму танец узяты за аснову сцэнічнага існавання акцёраў? Мяркую, што ў час усеагульнага сінтэзу мастацтваў і культур — гэтая рэч заканамерная і сімвалічная".

Але сімвалічным застаецца не толькі гэты факт, а таксама і тое, што ў пастаноўцы навідавоку арганічная сувязь пакаленняў аднаго з старэйшых тэатральных калектываў краіны. У спектаклі прынялі ўдзел як мэтры, народны артыст СССР Т. Кокштыс, народная артыстка РБ С. Акружная, заслужаныя артысткі РБ В. Петрачкова, Т. Шашкіна, Т. Ліхачова, так і моладзь тэатра: А. Макаранка, У. Ацясава, Н. Цішкевіч... І відавочна, самі акцёры сталі жывым вобразам жыцця нашай вечна старой і маладой планеты.

Спадзяёмся, што ў наступным сезоне публіка па-сапраўднаму ацэніць новы твор вядомага тэатральнага рэжысёра, а ён у сваю чаргу парадуе нас не апошняй неардынарнай пастаноўкай.

**Ігнат МАЛАНКАЎ**

# "Дзень паэзіі"

Алег САЛТУК

## Буду светла тужыць...

### Згадка

*Што за птушка ляціць*
*У спякотную сінь,*
*І трывожна крычыць*
*Праз усю далячынь?*

*Засынае акно,*
*Анікога ў двары...*
*Ну, а птушка адно*
*Крычыць нема ўгары.*

*Стаў у горле камяк*
*Ад крынічнай вады.*
*Не даўмею ніяк,*
*Як патрапіў сюды.*

*У сваю вось ваду,*
*У сваю маладосць.*
*Што згубіў, што знайду,*
*Гаспадар тут ці госць?*

*Паўрасталі сляды*
*Ля вады, ды ў пясок.*
*Мне б раней бы сюды*
*На гадкоў з дзесяток.*

*І як мог я яшчэ*
*Дзесь без памяці жыць?..*
*А крынічка цячэ,*
*Каня канькае:*
*— Піць.*
*А крынічка маўчыць.*

### Напісанае застаецца

Земляку-мастаку і цёзку
Алегу СКАВАРОДКУ

*Малюй, мастак,*
*З натуры, проста так,*
*Імгненне выпускаючы на волю.*
*Пабегла твая сцежка на бальшак,*
*На роднае Прыдзвінскае прыволле.*

*Які наш край!*
*Напэўна, тут і рай —*
*Азёры без канца і баравіны.*
*Усё, мастак, прымай і апявай*
*Да самага апошняга спачыну.*

*Няхай бунтуюць фарбы і святло,*
*Няхай пагляд з рукою верным будзе.*
*Твары, мастак, так, як усё было,*
*Ці можа быць, нібыта ў нейкім цудзе.*

*Твары, мастак,*
*І не крыўдуй, дзівак,*
*Калі хто-небудзь крывенька ўсміхнецца*
*І скажа:*
*— Гэта — вось не так...*
*Напісанае, вер мне, застаецца!*

### Ноч

*Спаць не хочацца і не сплю.*
*У вакно гляджу на нябёсы.*
*Божа мой, тут я ўсё люблю*
*З той пары, калі бегаў босы.*

*Нада мною — у вечнасць шлях,*
*Пада мною — раса ў тумане.*
*Перапёлкі крычаць у палях*
*І на рэйках грымяць трамваі.*

*Якім будзе заўтра маё?*
*Стану зоркам і росам маліцца,*
*Каб пачуць душу салаўёў,*
*Знайсці песню і ў камяніцах;*

*Каб у вёсцы сустрэць земляка,*
*З гарадскім земляком парукацца...*
*Ад слязы пацяплее шчака.*
*Доўга-доўга будзе не спацца.*

### Сакавіцкі настрой

*І смех і грэх —*
*Вывозяць снег,*
*Якога сёння многа стала.*
*Імчаць імкліва самазвалы*
*Па беласнежнай цаліне.*
*Па беласнежнай цаліне,*
*А звалка там, за паваротам.*
*Кіпіць у дворнікаў работа,*
*Напэўна, хутка быць вясне.*

*Напэўна, хутка быць вясне.*
*Сініцы ціўкаюць, дурэюць,*
*Ад сонца шчодра ружавее*
*Кара на гонкае сасне.*

*Кара на гонкае сасне*
*Смалою хутка набрыняе,*
*Касач на выжарцы зайграе.*
*Ты прыязджай, я так чакаю*
*Цябе, падобную вясне.*

### Ранак

*На каньку вуркоча голуб —*
*Тут сяброўчакі крыло.*
*І смяюцца небу долы —*
*Прачынаецца сяло.*

*Завіхаецца суседка,*
*Сыпле жартамі сусед.*
*А дачка іх, непаседка,*
*Яшчэ спіць.*
*Святлее свет.*

*Як адхланне, мне світанне.*
*Сакавік салодзіць сок.*
*На мяне сягоння гляну*
*Ружы спуджаныя шчок.*

*Вірам глянуць тыя вочы*
*З ключавой, жывой вады...*
*Хочаш вер або не хочаш:*
*Гэта ж ты была тады!*

### Жаданне

*Жыць бы мне, не тужыць,*
*Бачыць неба над гаем,*
*Дзе зарніца гарыць*
*Ад канца і да краю.*

*Дзе сярпок-маладзік*
*Косіць спелыя знічкі,*
*І, нібы вартаўнік,*
*Клён стаіць ля крынічкі.*

*Мне б сустрэць земляка*
*З яго ўшацкаю байкай,*
*Паглядзець, як рака*
*Ціха гойдае чайку.*

*Мне б абняць, прытуліць*
*Цябе грэшна-святую,*
*Па кім сэрца баліць*
*І душа з кім святкуе.*

*Мне б вясёленька жыць,*
*Бо не голы, не босы...*
*Буду светла тужыць*
*Па зямлі і ў нябёсах.*

### Снежань-99

*З паўдня ўжо бярэцца*
*на вечар,*
*Агеньчыкі ў вокнах блішчаць.*
*Бярозак бялюткія плечы*
*Ад сіняе сцюжы дрыжаць.*

*Зляцела яна нечакана*
*На рэкі, лясы і палі.*
*Снягі залеглі ля парканаў*
*І злыя вятры загулі.*

*Сяджу ля зацепленай грубкі*
*І слухаю полымя гуд.*
*Галуб ля лагоднай галубкі*
*У падстрэшку:*
*гу-гу ды гу-гу.*

*У вёсцы ні кроку, ні гуку.*
*Вятры, маразы і снягі.*
*Хоць ты і не дужа далёка,*
*Ды ныюць тугі берагі.*

*І ў сэрцы вярэдзіць і плача*
*Вяскоўцаў закінуты лёс.*
*Засну, можа, заўтра і ўбачу*
*Сукенкі з адлігі ў бяроз.*



Фота В. МАЙСЮКА

Леанід ПРАНЧАК

## Паміж сягоння і ўчора...

### Гародня

*Маленькі дом на ціхай вуліцы —*
*Маленства цёплы успамін...*
*Сюды вяртаюся я ў думках*
*Да родных клёнаў і калін.*

*Пакуль цячэ імклівы Нёман*
*І будзяць раніцу званы, —*
*Ты будзеш мне бацькоўскім домам,*
*Старонкай роднай даўніны.*

*Зайду у хату да Максіма,*
*Спаткаю родных там людзей...*
*І стане мне мая Радзіма*
*Яшчэ мілей, яшчэ радней!*

*Ад слова род, ад слова родны*
*Твае высокае імя,*
*Мая шляхетная Гародня —*
*Мая радзімая зямля.*

### Восень

*Гэта — восень, восень, восень...*
*Я развітваюся з летам.*
*Неба выцвілая просінь*
*Над прыціхлым белым светам.*

*Пажаўцелая атава.*
*Цішыня і адзінота.*
*І каму якая справа,*
*Што ў вачах маіх самота...*

*Гэта — восень, восень, восень*
*У маім збалелым сэрцы.*
*Можа, гэта мне здалося?*
*Можа, гэта мне здаецца?*

*Жоўты сад лісты губляе*
*І прыходзіць шкадаванне,*
*Што з лістамі адлятае*
*І самота, і каханне...*

### Мяжа

*Пагасне свечка у руках*
*На скразняку ў дзвярным праёме...*
*Майго кахання дзікі птах*
*Жыве ў тваім бязлюдным доме.*

*Ён верыць злоснай варажбе*
*І ад мяне адводзіць вочы.*
*Ён закаханы у цябе*
*І пакідаць твой дом не хоча...*

*Ты расчыні сваё акно,*
*Ты адпусці на волю птаха.*
*І выпі горкае віно*
*За невядомага манаха...*

*Твая наіўная душа,*
*Мая маўклівая пакора, —*
*Як неадольная мяжа*
*Паміж сягоння і ўчора...*

### Маўчанне

*Ты маўчыш... Я не ў сілах*
*Перарваць гэту моўкнасць.*
*А за вокнамі — лівень,*
*Клёны жоўтыя мокнуць...*

*І з палону сумоўя*
*Аніякага выйсця.*
*Быццам зоры, пад ногі*
*Ціха падае лісце...*

*Я парушыць твой роздум*
*Не хачу выпадкова,*
*Каб не вымавіць раптам*
*Развітальнага слова.*

*Ды маё прабачэнне*
*Прагучыць недарэчы:*
*Ты маўчыш аб расстанні,*
*Я маўчу аб сустрэчы...*

Мікола ПАПЕКА

## Птушачка фатографа

❑
*Старая-старая яблыня*
*ў траўні заружавелася...*

❑
*Як прыемна пахнуць*
*канваліі белыя —*
*а чмялі праляцяюць міма...*

❑
*Чорны бусел,*
*чорны бусел,*
*белагруд,*
*памажы ты Беларусі,*
*будзь жа тут,*
*дзе даўно ўжо*
*жаўталотаць не расце*
*і сабрат твой*
*не кляхоча на страсе.*

*Чорны бусел,*
*чорны бусел,*
*белагруд,*
*табе лётаць*
*над балотам*
*не дадуць...*
*Тут*
*рачулкі ўсе і рэкі*
*ў кайданах,*
*ды зямля*
*пяском зміяцца*
*на вятрах...*

*Чорны бусел,*
*чорны бусел,*
*белагруд....*

❑
*Ці не бяскрылай*
*нарадзілася пчала,*
*што паміраe*
*з першай*
*спробай лёту?..*

❑
*Светла і чыста*
*квітнеў наш сад...*
*І вось — адцвіў —*
*белыя воблакі*
*асыпаюцца снегам...*

❑
*...а выпушчаная*
*фатографам птушачка —*
*ляціць да гэтага часу...*

Пружанскі раён,
в. Лінева

Янусь МАЛЕЦ

## *На гэтым свеце...*

*На гэтым свеце —*
*Дождж і вецер,*
*І зграі змрочныя*
*Аблок.*
*Ды несупынна*
*Сонца свеціць,*
*І адступае*
*Чорны змрок.*

*У чалавека —*
*Доля веку,*
*Снягоў у душы*
*Намяло...*
*Але шукайце*
*Па засеках,*
*Цяпло шукайце*
*І святло!*

## *Аптымістычная драма*

*Убегла ў вагон імклівa, —*
*Парфума з вачэй сцякала, —*
*Не плакала — галасіла*
*І ў сумачцы штосьці шукала.*

*А за вакном, па пероне,*
*Хадзіў і хадзіў хлапчына.*
*І раптам прыбег:*
*— Алёна!*
*Вярніся, бо я... загіну.*

*Глядзела на твар хлапечы,*
*Як быццам бы анямела,*
*І толькі дрыжэлі плечы*
*Пад кофтачкай тонкай, белай.*

*Са шчок яе выцер слёзы*
*І ціха спытаў: — Даруеш?..*
*Каб быў я цвярозы,*
*Не здрадзіў бы, не! Ты чуеш?*

*Скрывіла гвалтоўна ўсмешку*
*І моўчкі пайшла з вагона,*
*А ён ля яе пацешна*
*З падскокам кружыў віноўна.*

*Жанчына з самотным тварам —*
*На левай руцэ пярсцёнак —*
*Сядзела, нібыта хмара,*
*З няшчасных, відаць, развядзёнак.*

*Рванулася ў ноч электрычка;*
*Жанчына ў акно трывожна:*
*— Даруе яму, дурнічка...*
*Каб даў жа ім шчасця, Божа!*

## *Гіпнатычны ўспамін*

*Ашчаслівіла ноч успамінам:*
*Апынуўся я ў нашай вясне,*
*І сказала з усмешкай ты мне:*
*— Што глядзіш на мяне гэтак дзіўна?*

*А над вёскаю — месяц і зоркі!*
*Мы па вуліцы ціхай пайшлі,*
*І адны мы былі на зямлі*
*Між дрымотных, нямых панадворкаў.*

*— Што глядзіш на мяне гэтак дзіўна?*
*Усміхнуўся, нясмела абняў:*
*— Я хачу паглядзець на наш стаў,*
*Пойдзем сходзім да панскага млына.*

*— Мы не зможам... Не зможам!*
*Не зможам!*
*У мінулым і млын, і наш стаў!*
*...І твой вобраз раптоўна прапаў.*
*Недарэчна, балюча, трывожна.*



На здымку: мастак і паэт (Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК і Генадзь БУРАЎКІН)
Фота Я. КОКТЫША

Казімір КАМЕЙША

## *Ода жаночым грудзям*

*Грудь не тщись закрыть...*
**М. Ламаносаў**

*Спакуса вечная мужчынаў,*
*Як у садах чужых наліў,*
*Як дзве гары з адной лагчынай,*
*З двума вулканамі на іх.*

*Не па сабе любому стане.*
*І горды схіліць галаву,*
*Калі яны, як бомбы, станік*
*ўсе шнуркі яго рвануць.*

*м не пасуе лёс бабулі.*
*Давай ім лаўры і крамлі.*
*І на высокае трыбуне*
*Яны высокія былі.*

*Глядзіш — ці пава, ці ільвіца,*
*Як на падносе, іх нясе.*
*І сэрца юнага раўніўца,*
*Як мыш, кідаецца ў сусек.*

*Якая грацыя, пастава!*
*Яны часамі — вэрць ды круць.*
*На іх і чарачку паставіш —*
*Яны і кроплі не пральюць.*

*Бывала дыхалі вулканам,*
*Ды злосцю іх вадзіў не гнеў.*
*І быў шчаслівым блазен п'яны,*
*І кволы парастак п'янеў.*

*Чужыя й нашыя мадэлі,*
*Найлепшай самай пекнаты.*
*Іх зваў Вялюгін цыцадэллю —*
*Ото ж і грэшныя фарты!*

*Ад іх мая нямела ліра,*
*я з тых кубкаў часам піў.*
*рукі трэсліся ў Заіра,*
*Калі ён з гліны іх ляпіў.*

*Нібыта высечкі скалінай,*
*Яны ірвалі працішу.*
*Любіў іх нават дзед Калінін,*
*Медаль чапляючы, крануць.*

*Ці той брываcты паказычa.*
*Што можа быць найгарачэй,*
*Калі з іх рогат мкне і кліча*
*Раскаціста, нібы ручэй.*

*Выява берагу ці раю,*
*Абрыс знішчальнага кастра...*
*Атлас і шоўк агнём іграюць,*
*Яны ў агні тым не гараць.*

*Гараць джыгіты маладыя,*
*Згараюць, нібы матылі.*
*Маглі, даруй мне, грудзі тыя*
*Такія войны распаліць.*

*Згасаюць вочы і праменні,*
*І нават цені не снуюць,*
*Калі два белыя струмені*
*Пра вечнасць ціха запяюць.*

*Яны кармілі моцай юнай*
*Чужых дачок, чужых сыноў*
*І нават гэнага Цзэдуна*
*І іншых маоцзэ...здуноў.*

*Нам звабным пальчыкам ківаюць*
*Фартуна,*
*злот,*
*і сам разлік.*
*А вусны часам забываюць*
*З якіх крыніц яны пілі.*

*Не забывай, як імя Бога,*
*Ну дзе б ты ў свеце не бываў,*
*Сябе зямнога,*
*І груднога*
*сябе,*
*Мой брат, не забывай!*

Мікола ШАБОВІЧ

# З нізкі "Ненаглядка"

❑

*Тваіх далікатных ліній*
*Зялёнае чарадзейства*
*Супыніць мяне, як лівень,*
*За крок адзін ад зладзейства.*

*Хіба ты жыла так блізка,*
*Не зблытала каралеўства,*
*Багіня ці адаліска,*
*Спаборніца палтэргейсту?*

*Ты нібы з другой планеты,*
*Тваё так магніціць міні,*
*Што зімы свае і леты*
*Аддаў бы за цноту ліній,*

*Каб толькі гадоў праз дзесяць*
*Я ведаў, што ты так блізка,*
*Спаборніца палтэргейсту,*
*Багіня ці адаліска.*

❑

*Ты народжана для спакусы,*
*Каралева чужых дарог.*
*Хто тваіх дакрануўся вуснаў:*
*А ці д'ябал? Ці, можа, Бог?..*

*Будзеш зноўку не спаць да рання,*
*Нараджаць за радком радок*
*Пра няспраўджанае каханне,*
*Пра злавесна-няўмольны рок,*

*Пра музыку, што граў шчымліва —*
*Ты, як хмарка, за ім плыла*
*І была, як ніхто, шчаслівай.*
*Дзякуй Богу, што ўсё ж БЫЛА...*

❑

*Ну, вось і ўсё. Закончана гульня.*
*Гусцее змрок. Я п'ю тваё дыханне.*
*Гарэза-ноч, як лепшая радня,*
*Жадае нам прыемнага світання...*

❑

*Нам развітання хочацца пазбегнуць,*
*Ды стрэлак бег імклівы*
*не спыніць.*
*Каму патрэбна сэрцаў незалежнасць,*
*Калі між намі рвецца, рвецца ніць?*

*Сустрэчы нашы хутка за туманам*
*Схаваюцца — іх болей не знайсці.*
*Мы будзем жыць*
*прымружаным падманам,*
*Свой несці крыж і некуды ісці.*

*Да перамог? Да сонечнага заўтра?*
*Так цяжка верыць,*
*што усё ў былым:*
*І лівень-дождж, і сціпшаная парта...*
*Ад пачуццяў застаўся толькі дым.*

*Ён паміж намі сцелецца нясмела,*
*Нібы агмень спрабуе ажывіць.*
*Ты будзеш з ім.*
*Ты гэтага хацела.*
*А я, скажы, ну што я мог зрабіць?*

*Жадала лёту — і цяпер ты птушка.*
*Нашто злавацца на няўмольны лёс.*
*Шаптаць ты будзеш*
*іншаму на вушка,*
*Каб ён цябе за воблакі узнёс.*

*Хоць у захмар'і, пэўна, не салодка,*
*Ды кожны хоча зведаць вышыню,*
*Ляцець-імчаць з вясноваю паводкай*
*Насустрач ночы ці, магчыма, дню.*

*Абы ніколі не стаяць на месцы,*
*Абы імкнуцца*
*гэты свет змяніць...*
*Няўжо напраўду паміж намі рвецца,*
*Так нечакана-лёгка рвецца ніць?..*

❑

*Як табе там жывецца?*
*Ці не стамляе вырай?*
*З любых мясцін стаўпецкіх*
*Ці далятае ліра?*

*З мужам і пры парадзе*
*Лёгка быць еўрапейкай?*
*Што ж у тваім паглядзе*
*Слёзка дрыжыць на вейках?*

*Хіба забыць паспела*
*Ты пра хвіліны тыя,*
*Як я табе нясмела*
*Словы казаў святыя?*

*Зор белабрысы россып,*
*Помніш, срабрыў да ранку*
*Нашы з табою росы,*
*Нашы з табой альтанкі...*

*Дзён летуценных млiва*
*Мне не забыць ніколі.*
*Ціха і сарамліва*
*Нашы стаяць таполі.*

*Восень кране лістоту —*
*Здасца: то мы з табою,*
*Стомленыя палётам,*
*Кленчым прад лістабоем.*

Ніна ГАРАГЛЯД

# Тумановы будзень

❑

*Перад люстрам дачка сукенку*
*Маю шлюбную крадком мерае.*
*І мільгаюць худыя каленкі,*
*Вочы свецяцца радасцю, вераю.*
*Ах, дзяўчынка мая дасужая,*
*Не праспеешвай гадкі свае.*
*За пустым, дзіця, нагаруешся,*
*А за дбайным — усмак пажывеш.*

❑

*Я рабінавыя гронкі —*
*Завушніцы мерала.*
*Я смяялася так звонка,*
*Я ў шчасце верыла.*
*І з адкрытаю душой,*
*Як у вёсцы — насцеж,*
*Я па вулках гарадскіх*
*Йшла-шукала шчасце.*
*Ды студзілі скразнякі.*
*Падманвалі людзі.*
*Запаўзаў у маю душу*
*Тумановы будзень.*
*Ах, наіўная душа,*
*Зродні шчэ дзіцячай...*
*Ты ад песні, ад дажджу*
*Радуешся й плачаш.*

❑

*Мерзлай галінкай*
*Клён стукае ў шыбу.*
*Хустку накіну,*
*На ганачак выйду.*

*Толькі з дарогі*
*Любы мой позніцца...*
*Да адзінокай*
*Клён начаc просіцца...*

❑

*А дрэвам холадна.*
*Галінкі тонкія*
*Ажно звіняць у маразы.*
*Я кволых тры галінкі бэзу*
*Пастаўлю ў вазу да вясны.*

*І хай за вокнамі лютуюць*
*Мароз, завея не адна...*
*А у маім пакоі — бэзава,*
*Тут кватаранткаю — вясна.*

❑

*Напрамкі праз лясы, балоты*
*Ноч вясновая крочыць у ботах.*
*Падыходзіць да кожнай хаты:*
*Тут на дзетак двор багаты?*
*Зазірае цікаўна ў вокны,*
*Рукавом трасе мокрым.*
*Спіць хлапчына — дык не кране,*
*А як дзеўка — вяснушак сыпне...*

*г. Камянец*

Серафіма БЕСТАВА

## *Якой старэнькай стала мама*

*Слязіна коціцца па твары,*
*Бы воск плыве са свечкі ў храме.*
*Як час над намі ўладарыць:*
*Якой старэнькай стала мама!*

*Ці мог яшчэ хто, як яна,*
*Адольваць стому, перашкоды?*
*Цягнула важкі воз адна*
*Не дзень ці два — цяжкія годы.*

*Дзе толькі мама брала сілы,*
*Каб іх было на ўсе дарогі.*
*Вялікай платай заплаціла*
*За набліжэнне перамогі.*

*Былі і страты, і трывогі,*
*Трымайся — суцяшалі зоры.*
*Дзяцей паставіла на ногі,*
*Каб не было прад людзьмі сорам.*

*Сваю жытнёвую палоску,*
*На сонца гледзячы, ты жала.*
*Душою прыкіпеўшы к вёсцы,*
*Цяпер ты гараджанкай стала.*

*Слязіна коціцца па твары,*
*Бы воск плыве са свечкі ў храме.*
*Як час над намі ўладарыць:*
*Якой слабенькай стала мама!*

## ЧАСАПІС

# “Найди себя...”

**Авянір Вайнштэйн — чалавек,талентам не абыдзены. Добра зарэкамендаваў сябе як музыкант, журналіст. Захапляецца фотажурналістыкай. А яшчэ піша вершы і прозу, “замахнуўся” нават на паэму “Трубач”. Ды і валодае зайздросным уменнем, не зважаючы на ўзрост, заставацца маладым. Сам аптыміст, жыццялюб, дапамагае і іншым заставацца гэткімі ж жыццялюбамі і аптымістамі. У тым ліку і дзякуючы сваёй паэтычнай творчасці. Маючы гэта на ўвазе, Галіна Цвяткова сваё ўступнае слова да кнігі А. Вайнштэйна і назвала — “Купіце білет да станцыі “Юнацтва”...” Кніга ж А. Вайнштэйна “Найди себя под Знаком Зодиака” выйшла дзякуючы рэкламна-выдавецкай фірме “Ковчег”. А складаецца зборнік з паэтычных і празаічных твораў. Паэтычныя стаяць спачатку, бо А. Вайнштэйн па сваім таленце — найперш лірык. Гэта падкрэслівае і аўтар яшчэ аднаго слова пра яго Алесь Кохан (“Не страціць вышыні”). І ў паэзіі, і ў прозе (у прозе ў большай ступені) А. Вайнштэйн у многім ідзе ад пражытага. Бацькі яго былі музыкантамі. З імі хлапчук развітаўся ў сорак першым... А пасля... Што было пасля, у нечым можна даведацца і з верша “Лёша Птица”, у якім, безумоўна, моцныя аўтабіяграфічныя моманты:**

*Детство... Что такое детство?*
*Было ль детство у тебя?*
*Было... Стоит лишь вглядеться*
*в полыхание огня:*
*он дрожит порывом нервным,*
*полыхает вкривь и вкось.*
*С первой бомбой в сорок первом*
*детство то оборвалось.*
*Тамбур тесный. У границы*
*поезд вздрогнул. Путь изрыт.*
*Морем — урожай пшеницы.*
*Стоны. Крики. Плач навзрыд.*
*Треск вагонов. Это пламя...*
*Это пламя —*
*не в печи.*
*Солнце на закате в память*
*кровью*
*влезло.*
*Ты кричишь*
*громче, громче: “Ма-ама-я!”*
*Мама —*
*руки к небу: “Палачи!”*
*А фашист кружит упрямо*
*и строчит,*
*строчит,*
*строчит...*

**Пеажытае надае творчасці А. Вайнштэйна своеасаблівую акрасу. У празаічных жа творах аўтар пэўныя падзеі, выпадкі падае такім чынам, што чытач адразу становіцца асобай зацікаўленай, а гэта прымушае яго, не спыняючыся, дайсці да апошняй старонкі твора, каб хутчэй даведацца, што было далей. Вершы ж — гэта і пеажытае, і той стан душы, які адпавядае чалавеку, па-сапраўднаму ўлюбёнаму ў навакольны свет, здатнаму ў гэтым свеце заўважаць тое (і належным чынам перадаваць), што іншым заўважыць (тым больш перадаць) не ўдаецца. Лірычны герой А. Вайнштэйна ў многім застаецца тым юнаком, які не растраціў пэўнай рамантычнасці. Яго здзіўленне прыгажосцю паўсядзённага лёгка знаходзіць у чытацкай душы адпаведны водгук:**

*Звёзды капали в рощу.*
*Отсветила — упала.*
*Никому-никому невдомек:*
*Может, с каждой*

*Сгоревшей звездою*
*Березка вставала*
*И у ножки ее*
*Зажигался цветком огонек...*

**Авянір Вайнштэйн выступае ў розных паэтычных жанрах. Пацвярджэнне таму — з’яўленне ў кнізе раздзелаў “Басни” і “Детская комната”.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

## ДЭБЮТ

*Час ад часу ў паэзіі з’яўляюцца людзі, якія і самі па сабе ўяўляюць творы высокага мастацтва... Сузіраючы і слухаючы іх, не ведаеш, дзе больш прыгажосці — ці ў самой чалавечай сутнасці гэтых людзей, ці ў іх вершах...*
*З такіх — і Алена Якаўлева. Датклівая, наіўна-дзіцячая, празрыстая і чыстая, як сакавіцкі, сплаканы пад сонцам, лядзяш вясны...*
*Родам Алена з вёскі Ігрушка Крупскага раёна. Пасля вучобы ў Літаратурным інстытуце ўжо восьмы год жыве ў Маскве. Піша мала, больш перакладае з англійскай...*
*Але, як на маё ўспрыманне, то ёсць — захавалася! — і сваё кроўнае, глыбока беларускае, жывое...*
*Тое і прапаную чытачам газеты.*

**Л. ГАЛУБОВІЧ**

### Алена ЯКАЎЛЕВА

❑

***Спіць цяля маленькае ля печы.***
***Бацька з хлеву клопатна прынёс***
***Адагрэць дрыготкую малечу,***
***Што на свет з’явілася ў мароз.***

***Толькі што абуджана істота***
***З глыбіняў квітнеючых вачэй.***
***Ў чым твая загадка?***
***Хто ты?***
***Што ты?***
***Свет з тваёй прысутнасцю ярчэй!***

***Цельца, быццам дзіўны трохвугольнік***
***З рухамі няўстойлівых вуглоў.***
***Хто цябе стварыў з часцінак стольkіх,***
***З даўніх старажытных чарцяжоў?***

***Мой сынок схіліўся нізка-нізка —***
***То смяецца, то ізноў маўчыць:***
***Дзівіцца, як цуд з ружовай пыскай***
***Першы раз на белы свет мычыць...***

❑

***Сунічку з вясёлкавым вусенем***
***Спужаю дрыготкімі вуснамі —***
***Даруйце, я вас не пакратаю,***
***Дзяцінствам знянацку абнятая.***

***Сунічка са стомленым вусенем,***
***Душою да вас прыхінуся я —***
***Да мілай вясковай карціны***
***У рамцы сівой павуціны.***

***Ах, колькі загадкавай вечнасці***
***У рухах амаль непрыкмечаных...***
***Радзімы ліхтарык малюсенькі —***
***Сунічка з разбуджаным вусенем.***

❑

***Сапраўднае бачыцца лепей здалёк —***
***Успомніцца думка старая.***
***Былога кахання жывы васілёк***
***Блакітным ліхтарыкам ззяе.***

***Ён вырас далёка-далёка ад нас,***
***У жыцце не нашага лёсу.***
***Таму і цвіце, не патух, не пагас,***
***Заплецены ў вечным калоссі.***

***І лёгка і цёпла таму васільку***
***У нашым неразгалоссі.***
***Яго нізашто мы на ўласным вяку***
***Сваімі рукамі не скосім.***

***А ў стосе то хмарных,***
***то сонечных дзён,***
***У нашых сустрэчах-спатканнях***
***Успомнім, як дзіўны няспраўджаны сон,***
***Няўдалае наша каханне.***

❑

***У глыбокім-глыбокім метро,***
***Апранутага ў спешку вакзала,***
***Я цябе на прыпынку вятроў,***
***З валацуг валацугу, спаткала.***

***Незнаёмы сумотны дзівак***
***З неадчэпна з’язджаючай сумкай,***
***Ты спяшаўся***
***кудысь проста так***
***З неадчэпнай матляючай думкай.***

***Ты прынік, бы прыліп да вакна,***
***Да вачэй і маўклівых абліччаў.***
***Бы палюеш — з цямна да цямна —***
***За адзінай сваёй электрычкай.***

***Я зрабілася сэрцам мацней,***
***І забылася ўраз на трывогі,***
***І адчула, што ўжо й для мяне***
***Раптам сэнс пагублялі дарогі.***

*Шаноўная рэдакцыя!*
*Не першы год з’яўляюся чытачкай “ЛіМа”. Цікавая газета і неабходная для настаўніка. Дзякуй вам, творчага плёну надалей. Прыемна было ўбачыць у “ЛіМе” творы маладых берасцейскіх паэтаў Ярыны Дашынай і Марылі Лагодзіч. З гэтымі дзяўчатамі я пазнаёмілася на рэспубліканскім конкурсе маладых талентаў “Дэбют”. Так, я таксама пішу вершы. Надыходзіць час, калі хочацца, каб цябе пачулі, далі нейкія парады, а, можа, проста сказалі: “Не марнуй, дзеўка, часу...” Так ці інакш, а вось наважылася даслаць вам і я свае вершы...*

**З найлепшымі пажаданнямі І. ЛЯШКЕВІЧ,**
**настаўніца Мачульскай школы на Століншчыне**

### Ірына ЛЯШКЕВІЧ

❑

***Веснавое крумкатанне.***
***Куп’ё цягнецца з вады.***
***І на першае спатканне***
***Выйшаў месяц малады.***
***Крэкча, вохкае балота.***
***Бусел крыллем узмахне.***
***Сарамлівую дрымоту***
***Чайка крыкам спалахне.***
***Навакол — прастор і воля,***
***Ажываюць берагі.***
***А ў тым крыку столькі болю,***
***Невычэрпнае тугі!***
***Гэта дзіўная самота —***
***Песня-плач маёй зямлі.***
***І спытае вечар: “Хто ты?”***
***— Паляшук, — шапнуць камлі.***

❑

***Вярбовая дарога да сяла,***
***Зялёна-залатая ў светлы ранак,***
***Мяне пад цень спагадна прыняла...***
***Як грэшніцы дае святы прыстанак***
***Прытулак, бласлаўленне і спакой,***
***Праз шчырую малітву ўратаванне,***
***Так і дарога гэта, на якой***
***Сустрэчы нашай след***
***і след расстання***
***Пяском павольна вецер замяце.***
***Праз шэры пыл праб’ецца разнатраўе...***
***І палыном самота прарасце,***
***І кветкаю — надзея на спатканне.***

❑

***Недзе за вёскаю статак***
***Гне чорна-белыя спіны,***
***Восеньскай стынню працяты,***
***Хрумстае ранішні іней.***
***Вецер злуецца між голля,***
***Мёрзлай лістотай шугае...***
***Волі, здаецца ж, даволі,***
***Але ўсё ж — не хапае!***

❑

***Не абрывай каліну рана.***
***Няхай нацешыцца цяплом,***
***Пяшчотай сонечнай, туманам,***
***Птушынай песняю, дажджом.***
***Напалавіну чырвань ягад —***
***Не спеласць гэта. Пачакай.***
***Абернецца гаркотай прага,***
***І пеклам назавецца рай.***
***Яе святая сарамлівасць,***
***Дай толькі час, ускалыхне,***
***Пажарам скончыцца цнатлівасць...***
***Як маці, восень уздыхне.***

*“Добры дзень, “ЛіМ”!*
*Нарадзіўся я на Гомельшчыне ў 1950 годзе. Пасля арміі працаваў шафёрам, мантажнікам. Асеў на пастаяннае жыхарства ў Рагачове. Аднак неўзабаве дыягназ “рассеяны склероз” унёс у маё жыццё жорсткія карэктывы: вось ужо 20 гадоў я інвалід першай групы, без каляскі, як кажуць, ні туды і ні сюды. Услед за нагамі “пайшлі” і рукі — адмаўляюцца выконваць свае функцыі. Вось і гэты ліст дыктую сваёй жонцы Ніне, без якой не ведаю што і рабіў бы.*
*Вершы пішу даўно. Друкаваўся ў некалькіх калектыўных зборніках, летась займеў і сваю ўласную кніжачку. У “ЛіМ” пасылаю вершы ўпершыню. Разумею, што патрабаванні ў штотыднёвіку куды большыя, чым у той жа раёнцы, але, тым не менш, спадзяюся...”*
*Вось такі ліст прыклаў да сваіх вершаў Уладзімір Шпадарук. Вершы яго гавораць самі за сябе, аднак жа, дзеля задавальнення чытацкай цікаўнасці, мы вырашылі надрукаваць і гэты ліст аўтара.*

### Уладзімір ШПАДАРУК

#### Не адракайся веры

***Не адракайся веры, чалавек,***
***Ідзі за ёй і вера дапаможа***
***У ланцугу пакут і бездарожжа***
***Не патануць у гібельнай дрыгве.***

***Не адракайся веры, беражы***
***Яе ад усялякіх хмар жыццёвых,***
***Бо без яе на свеце***
***нельга жыць —***
***У думках цёмна і на сэрцы цёмна.***

***Не адракайся веры, толькі з ёй***
***Адчуць сябе магчыма чалавекам,***
***І голас Бога над Сінай-гарой***
***Пачуць і назаўжды яму***
***паверыць.***

#### Каб не памыліцца

***На мяжы святла і цемры***
***Мы стаім. Куды ісці?***
***Вокны свету запацелі.***
***Як, скажы, свой шлях знайсці?***

***Як, скажы, не памыліцца,***
***Каб у згодзе з дабрынёй***
***Богу мудраму адкрыцца***
***І паверыць: Ён з табой?***

***Каб знайсці душы збавенне***
***Ад жыцця ганебных з’яў.***
***Сродак ёсць, і ён — сумленне.***
***Голас з неба адказаў.***

Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

#### З дзяцінства

***Я маленькі, мне восем гадкоў,***
***І жыццё яшчэ ўсё наперадзе,***
***І стаю я на чыстым беразе,***
***Дзе пакуль што ні сцюж, ні вятроў;***

***Дзе пачуцці ў абдымках святла,***
***Нібы гронкі у садзе сонечным,***
***І вясна не хавае пагляд —***
***Так глядзіць, што у неба хочацца;***

***Дзе на крылах узнёслых мар***
***Я лячу і палёту радуюся,***
***Дзе наперадзе толькі раніца,***
***Ну а цемры — і ў думках няма.***

#### У чаканні

***Калі напоўнена чаканнем***
***Душа пакутная твая,***
***Не ў радасць птушак шчабятанне,***
***Святло і неба чысціня.***

***Ўсё шэрым, пахмурным здаецца,***
***Нібыта назаўсёды знік***
***Агонь, з якім сябруе сэрца,***
***Які вядзе жыцця адлік.***

***Гадзіна кожная, хвіліна***
***У скронях болем аддае.***
***Мо, так яно і быць павінна,***
***Ці — не?***

# На карысць трох народаў

**Так геапалітычна склалася, што Беларусь ва ўсе часы знаходзілася ў эпіцэнтры шляхоў, што вядуць з усходу на захад, з поўначы на поўдзень. Таму і нямала выдатных сыноў Бацькаўшчыны працавалі не толькі дзеля яе росквіту, а і для росквіту іншых народаў. Гэтаксама, як і прадстаўнікі іх, у сваю чаргу, спрычыніліся да развіцця беларускай літаратуры, мастацтва, культуры, навукі. Тым больш прывабныя іх постаці, бо ёсць мажлівасць лішні раз упэўніцца, як яркаму, глыбока самабытнаму таленту цесна ў дзяржаўных межах, а ў сілавое поле яго трапляюць многія.**

**Пацвярджэнне таму і лёс Мітрафана Доўнар-Запольскага — вядомага беларускага гісторыка, эканаміста, этнографа, аднаго з пачынальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі. Праўда, па-сапраўднаму вядомым Мітрафан Віктаравіч стаў нядаўна, калі яго асобай належным чынам зацікавіліся даследчыкі. Пры жыцці ж М. Доўнар-Запольскаму давялося перажыць нямала несправядлівасці, наўмысных адносін да сябе. Ён не быў ахвярай таталітарызму, рэпрэсіі закранулі яго ўскосна. На Беларусі заблакіравалі выбранне акадэмікам Акадэміі навук СССР, асудзілі як ідэйна-заганны рукапіс кнігі "Гісторыя Беларусі" і забаранілі яго выданне, паскорылі выхад М. Доўнар-Запольскага на пенсію. Ды і падарвалі ўсімі гэтымі наскокамі здароўе...**

**А як шмат зрабіў ён у сваіх навуковых памкненнях, відаць з кнігі "Даследчык гісторыі трох народаў: М. В. Доўнар-Запольскі", што ўяўляе сабой зборнік навуковых артыкулаў і дакументаў, які выдадзены ў Гомелі пры падтрымцы Рэчыцкага гарадскога выканаўчага камітэта. Рэчыцкага, бо Мітрафан Віктаравіч родам з Рэчыцы. У гэтым горадзе двойчы — у 1997 і 1999 гадах — праводзіліся Першыя і Другія Доўнарскія чытанні. Матэрыялы іх і займаюць значную частку кнігі, а дапаўняюць тыя, што на чытаннях не прагучалі, але тым не менш уяўляюць вялікую навуковую цікавасць.**

**Са старонак зборніка М. Доўнар-Запольскі паўстае даследчыкам гісторыі трох народаў. А перад усім беларускай. Каторую публікацыю ні возьмеш, яна мае важкі змест. Пачынаючы з матэрыялаў А. Ліса "Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі: жыццё ў навуцы" і З. Яцкевіча "Радавод Мітрафана Віктаравіча Доўнар-Запольскага", якія ўспрымаюцца як уводзіны ў жыццё і дзейнасць гэтага выдатнага чалавека. А такія, як "М. В. Доўнар-Запольскі — арганізатар і кіраўнік Кіеўскага камерцыйнага інстытута" А. Кіштымава, "М. В. Доўнар-Запольскі і традыцыі этнаграфічнага даследавання сям'і: на матэрыялах сем'яў хрысціян горада Магілёва пачатку XX ст." А. Яшчанкі, "М. В. Доўнар-Запольскі як эканаміст-тэарэтык" Д. Казлова, "Мітрафан Доўнар-Запольскі — літаратуразнавец" А. Каўкі і іншыя — даюць магчымасць лепш адчуць, наколькі М. Доўнар-Запольскі каларытная постаць і наколькі шмат у якіх пачынаннях ён абганяў свой час, смела глядзеў у перспектыву, выразна бачачы тыя накірункі навуковага і грамадскага развіцця, да якіх пазней звернуцца яго паслядоўнікі.**

**Дарэчы, М. Доўнар-Запольскі і выдатны грамадскі дзеяч. Пра гэта можна даведацца, прынамсі, з матэрыялу В. Мазец "М. В. Доўнар-Запольскі і БНР". Як вядома, ён працаваў у складзе Дыпламатычнай місіі, заклікаў беларусаў "злучыцца... напружыць усе свае сілы, фізічныя і духоўныя, дзеля таго, каб апраўдаць нашае права на самабытнае жыццё і абараніць незалежнасць нашае Бацькаўшчыны". М. Доўнар-Запольскі-патрыёт — гэта чалавек, які выкарыстоўваў любую магчымасць працаваць на карысць Бацькаўшчыны. І пры тым не мяняў сваіх поглядаў. Сведчаннем таму — прыведзенае А. Лісам выказванне М. Доўнар-Запольскага, што прагучала ў 1925 годзе са старонак газеты "Савецкая Беларусь": "Мы не можам не ведаць свайго мінулага... Мы — народ малады, ці лепей кажучы, памаладзелая нацыя... Рэвалюцыя вярнула нам права на самавызначэнне... Але мы павінны гэта права ў з м а ц н і ц ь".**

**Загортваеш кнігу з нязменным шкадаваннем, якое апошнім часам зрабілася звыклым: наклад усяго 200 асобнікаў. Значыць, і гэтым разам застаецца спадзявацца толькі на бібліятэкі.**

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**



*На здымку: паэты муж і жонка — Ізяслаў КАТЛЯРОЎ ды Софья ШАХ*

Алесь МАЗУР

## Адчай

*Ён больш не сагрэе,*
*Не ўселіць надзею —*
*Дачасна касцёр*
*Іскрамётны зачах.*
*І толькі змяёю*
*Варушыцца попел —*
*Змяёй выпаўзае*
*адчай.*

## Настрой

*Што апастыла*
*і не міла —*
*Пахаваю, заб'ю цвік.*
*Хай узыдзе над магілай*
*Зорнай ноччу маладзік...*

## Малітва

*Падкажы нам, Божа,*
*Дзе нашы дарогі,*
*Па якіх нястомна*
*Можам мы хадзіць?*
*Падкажы, Найсветлы,*
*Дзе пазбыць трывогі,*
*Піць ваду гаючую*
*Са святых крыніц?*

*Дзе набыць той компас,*
*Што кірунак меціць,*
*Дзе сцяжынай крочыць,*
*Дзе па бальшаку?*
*Мо тады лягчэй бы*
*Жыць было б на свеце?*
*Ты падай нам, Божа,*
*Помачы руку.*

г. Талачын

Алена МІРЧУК

❑

*Хто ты мне такі?!*
*Каб глядзець у вочы,*
*каб сядзець паўночы*
*ля маёй ракі.*

*Я табе ўслед*
*не скажу ні слова.*
*Я пайсці гатова*
*у далёкі свет*

*ад сляпой маны,*
*ад нямога бруду.*
*Я цябе забуду!*
*Праз чатыры дні...*

Уладзімір РУНЦЭВІЧ

## Чаму?

*Край родны зведаў шмат пакут,*
*Над ім не раз сыходзіліся хмары,*
*Таптаў чужынец родны кут*
*І прагнуў тут пагаспадарыць...*
*Зазнаўшы шмат бяды-тугі*
*І адстаяўшы сваю годнасць,*
*Край родны, сэрцу дарагі,*
*Нарэшце стаўся ты свабодны.*

*Але пытанне: дык чаму ж*
*Цяжар на сэрцы, бы калода?*
*Чаму трывожна зноў яму?*
*Чаму не радуе свабода?*

## Кветкі роднай зямлі

*Няхай яны не яркія улетку,*
*Затое ў снах ярчэйшыя зімой.*
*Маёй зямлі, маёй радзімы кветкі,*
*Усе ў душы маёй вы да адной.*
*Някідкія, я вамі ганаруся,*
*Да вас спяшаюся заўжды здалёк.*
*О, кветкі маёй роднай Беларусі —*
*Рамонак, незабудка, васілёк!*

## Дома

*Пахіліўся драўляны крыж*
*На пачатку майго сяла.*
*Хоць дарослы, ды ўсё бяжыш,*
*Як раней, да свайго жытла.*

*Там чакае матуля даўно,*
*Ўсё трывожыцца па сынку.*
*На стале і пірог, і віно,*
*Малако ў паліваным збанку.*

*Прагаворым мы з ёй да відна,*
*Аж да ранку, да ўсходу сонца.*
*Не кранём ні кроплі віна,*
*Сырадою ж вып'ем да донца.*

мястэчка Пухавічы

Тэрэза КРУМПЛЕЎСКАЯ

❑

*Заснула пад снегам лілея,*
*Каб зноў абудзіцца вясной...*
*І я пакрыху ўсё бялею —*
*Цяжкія гады за спіной.*

*Ды ў сэрцы чароўная кветка*
*Квітнее і лютай зімой.*
*Яна — маіх помыслаў сведка*
*І колер надзеі жывой.*

Юры КАРЭЙВА

## Сустрэча

*Адчыніш дзверы,*
*ледзьве чутна*
*увойдзеш:*
*хата ў абразах,*
*на покуці —*
*сагнутая пакутна*
*вярбы галінка.*
*Ціша... Бог....*

*Між іх —*
*малы хлапчук зіркаты:*
*то ж сам ты!..*
*Знікнуў на вачах...*
*Вунь след ягоны*
*промнем лёг*
*на цьмяны цень твой*
*сярод хаты...*

## Бяжы, мая памяць...

*За гэтымі вокнамі з поўняй,*
*дзе неба —*
*зноў поўнае зор,*
*пад знічнай слязою раптоўнай*
*маленства прабегла праз двор.*

*Там — свет!..*
*Пакуль ён невядомы —*
*ні бруду няма ў ім, ні зла,*
*няма той агіды і стомы,*
*што потым ты з болем спазнаў.*

*За ім*
*басаног цераз жыта*
*бяжы, мая памяць, бяжы...*
*Каб тое ўсё,*
*што пераж ыта,*
*цяжкое —*
*як камень з душы!..*

❑

*Нібы прачнуўся ты,*
*ды зноў*
*былымі снамі агартае:*
*на вечныя кругі тых сноў*
*цябе бязлітасна вяртае.*
*І зварухне душу ўспамін —*
*І выблісне праз попел прысак:*
*там час —*
*з імгненняў і хвілін,*
*знаёмых да драбніц і рысак!..*
*І раптам*
*маміна рука*
*твае сляпыя сненні зніме:*
*кране руку —*
*рука застыне*
*на дрогкіх літарах радка...*

Сяргей РУБЛЕЎСКІ

❑

*Дрэва радасці,*
*на якім адцвілі*
*кветкі нашага здзіўлення,*
*ператварылася ў дрэва смутку,*
*чорныя галіны якога*
*разбілі крохкае шкло небасхілу.*
*Наш шчымлівы смутак*
*засушыў карані —*
*і дрэва ляціць, як дзіда,*
*працінае наскрозь.*
*У віхурыстай прасторы*
*за ім*
*зачынаецца новы дзень.*

❑

*З усіх начэй*
*мы запомнілі адну,*
*сатканую з пялёсткаў квецені.*
*Мы занурыліся ў яе,*
*як у апошні прытулак.*
*Ноч перад выгнаннем.*
*Сцюдзёны бруісты халадок*
*віхлявым змеем*
*запоўз пад нашу падушку,*
*набітую снамі і марамі,*
*як пупавіна, звязаў*
*з немінучай будучыняй.*
*Каб помнілі,*
*куды нельга вярнуцца.*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

## Шлях да гармоніі

Кніга Валерыя Арцішэўскага "Нацыя: шлях да сацыяльнай гармоніі" невялічкая па аб'ёме, але ёмістая па змесце. У ёй зроблена спроба даследаваць жыццё народа ў кантэксце так званага "камуністычнага эксперыменту" па перабудкаванні грамадства. Аўтар, кандыдат тэхнічных навук, колішні сустаршыня Беларускай рэспубліканскай партыі, прапаноўвае чытачу сваё бачанне класаў, сваё вырашэнне праблем сацыяльнага развіцця як у асобна ўзятай краіне, так і ў свеце. Вядучая роля пры гэтым надаецца нацыі — базаваму носьбіту тэхналагічнай цывілізацыі.



У прадмове да кніжкі пісьменнік Васіль Якавенка адзначае: "Падкупляе неабыякавасць вучонага да лёсу ўласнага народа і нацыі, пошук радыкальных шляхоў выйсця грамадства з крызісу... Адзіны вывад, які напрошваецца: цывілізацыя ўрасла і трымаецца за зямлю каранямі нацый. З гэтым нельга не лічыцца. Без нацыянальных каранёў разваліцца, зачэзне і знікне род людскі..."

Разважаючы пра гісторыю цывілізацыі, сацыяльныя групы людзей, іхнія антаганізмы, аўтар спрабуе разабрацца ў вытоках нацыяналізму, які разглядае нацыю як гарманічнае цэлае з асноўнымі інтарэсамі і ўсіх нацыянальных слаёў. Нацыяналізм прызнае нацыю як аб'ектыўную рэальнасць. А інтэрнацыяналізм, народжаны камуністычнай ідэалогіяй, — прычына нацыянальнай дэградацыі больш чым 200 нацый і народнасцяў былога СССР. Цяжка не згадзіцца і з такой высновай: нацыяналізм па сваёй прыродзе аўтаматычна нацэлены на выхаванне нацыі. Гэта адзіная ідэалогія, якая ўлічвае інтарэсы ўсіх нацый планеты і здольная паставіць на службу чалавеку самы вялікі яго рэзерв — інтэлект і гістарычны вопыт народа. Арцішэўскі імкнецца пераканаць чытача, што шавінізм — кепскае выхаванне нацыі, касмапалітызм — адсутнасць усялякага выхавання, інтэрнацыяналізм — катаржная праца нацыі дзеля выканання чужых мэтаў.

Асноўныя палажэнні і вывады тэорыі сацыяльнай гармоніі аўтар адлюстроўвае простай матэматычнай мадэллю. Яна раскрывае патэнцыяльныя магчымасці грамадства ў стваральнай дзейнасці і паказвае, наколькі дабрабыт і росквіт залежаць ад ідэалагічных памкненняў грамадзян. Вось гэтая формула:

$$ПМС = \frac{Н}{Д}$$

*ПМС* — патэнцыяльныя магчымасці грамадства да стваральнай працы і фарміравання сацыяльнай гармоніі (асобная нацыя, асобная дзяржава, чалавечая цывілізацыя ўвогуле);

*Н* — колькасць людзей у грамадстве, якія прымаюць ідэалогію нацыяналізму (нацыяналіст — чалавек, які звязвае сябе з пэўнай нацыяй, з'яўляецца носьбітам яе генафонду, яе традыцый, гістарычнага вопыту, ён стваральнік і спажывец нацыянальных каштоўнасцяў, нацыянальнай культуры як часткі культуры агульначалавечай);

*Д* — колькасць дэнацыяналізаваных людзей у грамадстве (касмапалітаў, інтэрнацыяналістаў, камуністаў... — разбуральнікаў нацыі).

Калі ПМС<1 — грамадства асуджана на дэградацыю і дысгармонію; калі ПМС>1 — яно здольнае ісці па шляху да працвітання і сацыяльнай гармоніі.

Адраджэнне беларускай нацыі, сцвярджае аўтар, — не лакальнае пытанне, а глабальная праблема выжывання цывілізацыі. Бо толькі нацыя — натуральны гаспадар сваёй этнічнай тэрыторыі, толькі яна нясе адказнасць перад усім чалавецтвам за экалагічны стан сваёй зямлі, за захаванне правоў чалавека, яго дабрабыт і духоўнасць. Усё гэта — база новай маралі, новага мыслення, новай ідэалогіі — база вырашэння канфліктных сітуацый без выкарыстання зброі ў імя ўсяго чалавецтва...

Жадаецё падумаць, згадзіцца, запярэчыць — звярніцеся да кнігі Валерыя Арцішэўскага. Застаецца дадаць, што выдадзена яна Беларускім сацыяльна-экалагічным саюзам "Чарнобыль".

Я. Р.



**Зноў пра рыбу**

*Уладзімір ПАЎЛАЎ: Летась у нашым ручаі я злавіў вось такога шчупака.*

*Казімір КАМЕЙША: Сам бачыў...*

### Іван ЛАГВІНОВІЧ

## Данбасу

*"Бывай" не скажу, прахрыплю*
*"да сустрэчы",*
*мой зорны, мажорны, смуглявы Данбас.*
*Прызнанне такое было б недарэчным,*
*але развітальны наблізіўся час.*

*Рукой памахаю з прыступкі вагона —*
*на поўнач памчыць пасажырскі састаў...*
*Згадаецца песня пра лёс канагона,*
*якога я ў шахце ў свой час не застаў.*

*Згадаюцца брэмсбергі, кверш лагі, штрэкі,*
*мурзатыя твары брыгадных сяброў...*
*І будуць звінець пад вагонамі рэйкі*
*трасамі напятымі шахтных капроў.*

*Я вытру цвярозыя, шчырыя слёзы*
*і толькі тады адыду ад акна.*
*...У лёгкіх твой вугальны пыл антракозам*
*насіць мне цяпер да магільнага дна.*

### Галіна ДАШКЕВІЧ

❑

*Натхнёная золатам пожні*
*І сонцам стагоў,*
*Самотай туману,*
*Што сцелецца хваляй тугі,*
*Луской аксамітнай*
*Паважна-лянівых ліноў;*
*Буслінаю песняй,*
*Падобнай на покліч у рай;*
*Сівымі барамі,*
*Што век бераглі дабрыню;*
*Гаворкай, што льецца*
*Крыніцай праз нетры часоў, —*
*Дакопваю бульбу*
*У зоне палыннай слязы...*
*Дакопваю бульбу,*
*Нібы найкаштоўнейшы скарб.*
*На твары маім —*
*Палесся радзімага знак...*

❑

*Мы як кветкі, якім не хапае цяпла,*
*Падстаўляем далоні стамлёнаму сонцу.*
*Поўны келіх уцех,*
*ды на дне яго — стронцый,*
*П'ём атрутны бальзам і згараем датла.*

*Мы як зоркі, што падаюць у сіняву,*
*У абдымкі нікім не разгаданых мрояў.*
*Мы — вяршыні зламаныя велічных хвояў,*
*Мы — зярняты, што так*
*і не ўпалі ў раллю.*

*Як нам жыць, увахоdзіць у новы прасцяг*
*З распластанай душой,*
*пакалечаным сэрцам,*
*Калі мова, радзіма, жыццё — на паверцы,*
*Калі стрыжань духоўнасці ў брудзе зачах?*

### Алена ШУНЕЙКА

## "Камо грядеши?"

*Так страшна слова "назаўжды" —*
*Бы лёсу насланнё.*
*На могілках крыжы, крыжы —*
*Мінулае тваё.*
*Не адцурацца, не забыць:*
*Карэнні тут твае.*
*Пытанне "Быць альбо не быць?"*
*Гучыць: "Куды ідзеш?"*
*Не зможаш пакрывіць душой*
*Ля дарагіх магіл.*
*За кожны дзень, учынак свой*
*Ў адказе ты адзін.*

❑

*Асенні дзень сыходзячага лета*
*Мне ліст кляновы кінуў на далонь.*
*Зноў варажу, не верачы ў прыкметы,*
*Вяртаюся ў спалоханы спакой.*
*Зрываю полымя іскрыстае рабіны*
*І спапяляю горкую нуду.*
*Клін жураўвоў у небе сінім —*
*Здаецца мне — рукою абдыму.*

### Алена КЛЮЧЫНСКАЯ

❑

*Паглядзі, якое сонейка над лугам —*
*Свеціць, песціць, грэе, зіхаціць,*
*Пад нагамі жоўты дыванок ляжыць, —*
*Паглядзі, якое сонейка над лугам.*

*Ступіш крок — у дзьмухаўцах патонеш.*
*Я дзіўлюся харастыу такому.*
*І зусім не хочацца дадому.*
*Ступіш крок — у дзьмухаўцах патонеш...*

❑

*Варажы, цётка Агата,*
*Толькі не на жарт.*
*Будзе чым жыццё багата,*
*Ты счытай мне з карт.*

*Раскладзі сваю калоду*
*Ты хутчэй,*
*Падары мне асалоду*
*Мар, надзей.*

*"Прыйдзе ён, разумны, мілы", —*
*Ты скажы, —*
*"Будзе добры і руплівы"...*
*Варажы!*

*Варажбе, цётка Агата,*
*Паверу тваёй:*
*Сэрца поўніцца і хата*
*Прагай мрой...*

### Святлана АБДУЛАЕВА

❑

*На летнія зоркі*
*Сваімі вачыма*
*Глядзець у Нью-Йорку*
*Я мела магчымасць.*

*А мне не хапала*
*Жытнёвага поля,*
*Таго, дзе рамонкаў*
*Здавалася болей.*

*Экзотыка Ніла*
*Бадзёрыла душу,*
*А ноччу... я сніла*
*Бацькоўскую грушу.*

*І мне не хапала*
*Купальскага ранку*
*Ды бэзавай цішы*
*Ля роднага ганку.*

*На сцэне Ла-Скала*
*Быў поспех і ружы,*
*А мне не хапала*
*Каляднае сцюжы,*
*Дзе ўсё белым-бела,*
*Дзе клёны ў сумётах*
*І я... я ляцела*
*Дамоў самалётам.*

*Малюся у стоме:*
*"Спыні мяне, Божа,*
*Што ў матчыным доме*
*Тужу без... Ліможа".*

❑

*Міжвольна адшукала памяць*
*Вясну сярод зімовых дзён...*
*Пялёсткаў яблыневых замець —*
*Прэлюдыя ці дзіўны сон?*
*Як пух, у твар ляціць сняжынка,*
*Зрабіўшы лёгкі піруэт.*
*А мне... Мне мроіцца сцяжынка*
*І Твой знаёмы сілуэт...*

❑

*Гучыць старэнькі патэфон.*
*Шкада, былое ён не верне...*
*Адно туга мінулых дзён*
*У сэрцы прарастае зернем.*
*Іграй, іграй, саксафаніст!*
*Усе балады Адзіноты!*
*Не замаўкай... На жоўты ліст*
*Асенні дождж запіша ноты...*

### Расціслаў БЕНЗЯРУК

## Тры свечкі

*Адкінем сёння мішуру і хлам,*
*Паверыўшы, што цяжкасці — не вечны,*
*І разам зойдзем у Гасподні храм,*
*Прад аналоем тры паставім свечкі.*

*Перш — за здароўе ворагаў сваіх,*
*Каб дабрыня адолела ў іх злобу;*
*Яшчэ дзве — за сям'ю, за нас саміх,*
*Каб абышлі няшчасці і хваробы.*

*Гарыць агонь і растапляе воск.*
*Цяпер усе памкненнямі адзіны:*
*І верым, што за нас цярпеў Хрыстос,*
*І памятаем продкаў і Радзіму.*

*Спадае з сэрцаў неймаверны груз,*
*Сыходзіць мір, святое прасвятленне.*
*...Маліцеся часцей за Беларусь —*
*Яе Багацце,*
*Славу,*
*Адраджэнне.*

## Акопы, год 1913-ы

*Ні рэвалюцый, ні згрызот,*
*Жыццю яшчэ спакою хопіць.*
*Паэт на хутары Акопы.*
*Трынаццаты, шчаслівы год.*

*І з-пад Купалавай рукі*
*Радкі кладуцца роўна-роўна:*
*"Яна і я", і "Бандароўна",*
*"Магіла льва", і "Прымакі".*

*Трывога часам поўніць дом:*
*Няўжо ваенныя віхуры*
*Прымусяць нас спраўляць хаўтуры*
*Зноў над раскіданым гняздом?*

*Пасля... А сёння — "умалот":*
*Паэт, прысеўшы, шпарка піша,*
*І нават дрэвы шум свой цішаць.*
*Трынаццаты — Купалаў — год...*

# "Крокам" — 20 гадоў

*Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка мае багатыя літаратурныя традыцыі. Тут пачыналі свої творчы шлях многія вядомыя беларускія пісьменнікі: Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Анатоль Вялюгін, Язэп Семяжон, Сяргей Грахоўскі, Мікола Аўрамчык, Раман Тармола, Уладзімір Някляеў і інш.*

*У пасляваенны час маладыя аўтары аб'ядналіся ў творчы гуртох, выдавалі свой альманах "Першыя крокі". Затым на філалагічным факультэце доўгі час працаваў літаратурна-творчы гурток "Крыніцы", сябрамі якога ў свой час былі Віталь Гарановіч, Рычард Бялячыц, Вольга Шпакевіч, Вера Буланда, чые творы не раз друкаваліся на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў.*

*Літаб'яднанне пад цяперашняй назвай "Крокі" было створана 20 гадоў назад. За гэты час праз яго прайшло больш за сотню пачынаючых паэтаў і празаікаў. Сённяшняму чытачу ўжо добра знаёмы імёны Міколы Ждановіча, Міколы Мікуліча, Юрася Гарбінскага, Тацяны Старасценкі. Іх вершы і артыкулы неаднойчы змяшчаліся ў перыядычным друку, а М. Ждановіч і М. Мікуліч маюць ужо і ўласныя кніжкі.*

*Вялікія надзеі падае і сённяшняе пакаленне крокаўцаў. Іх вершы і прапануем ўвазе чытачоў "ЛіМа".*

**Мікола ШАБОВІЧ,**
**кіраўнік літаб'яднання "Крокі"**

## Ігар КЛЕПІКАЎ

### Аўтапартрэт перад абуджэннем

***Я той, хто сядзіць у цемры***
***Самых апошніх радоў***
***На невядомых прэм'ерах***
***Нетэатральных хітоў.***
***Мечаны зрухам па фразе,***
***Для навакольля — глухі,***
***Пазбаўлены лёсу ў фазе,***
***Наступнай за стартам страхі.***
***Закладнік аўтапілота,***
***З вар'яцтвам адзін на адзін,***
***Малюся ўслед самалёту,***
***Што падае на Пекін...***

❑

***Над возерам прымроіўся туман...***
***Яго начныя птушкі прышываюць***
***Да соснаў, што галовамі ківаюць,***
***Раскрыць, на жаль, нядольныя падман.***
***Над возерам прымроіўся туман...***
***У тым тумане клопаты знікаюць***
***І нават зоркі ў небе засынаюць...***
***Над возерам прымроіўся туман...***

❑

***Калі над галавой закрыюць хмары***
***Нябёсаў жыццярадасны блакіт,***
***Махні рукой — гары яно ўсё гарам! —***
***Самотны дзень адправіцца ў нябыт.***
***А заўтра новы дзень нас напаткае,***
***Хоць невядома, што нас там чакае.***
***Але... святлее раптам на душы.***
***Падобнае да звілістай шашы,***
***Жыццё маё кудысьці ўсё бяжыць,***
***Імгненні сонца між дажджоў шукае.***

## Насця ЧУБКО

❑

***Я не хачу нічога разумець,***
***Я не жадаю быць адной з натоўпу.***
***Мой шлях — гарэць, а не вуголлем тлець,***
***Не жыць, не пець пад нечыю дыктоўку.***
***Няхай варонай белай назавуць,***
***Аб гэтым ні на ёту не шкадую.***
***Няхай мяне ад мовы адарвуць,***
***Не разгублюся, зноў яе знайду я.***
***Не зразумела вам, аб чым я гавару?***
***Я гэта ведала, таму гляджу скрозь слёзы***
***На Беларусь, як на сваю сястру,***
***Цераз акно, крануты марозам.***

## Вадзім ШКЛЯРЫК

❑

***Я мару аб вечным,***
***Аб дзіўным палёце.***
***Суцішаны вечар***
***І думы ў самоце.***
***Кранаючы сэрца***
***Пяшчотнай рукою,***
***Вунь хтосьці крадзецца***
***За сіняй імглою.***
***Маўклівa, без слова***
***Ступаю на ганак.***
***Палоскай ружовай —***
***На небе світанак.***

## Алена ШАРАПА

❑

***Слязьмі забітага Хрыста***
***Зноў плача восень.***
***Далонь кляновага ліста***
***Спагады просіць.***
***Святла разбітага крышталь***
***У зорным небе***
***Лье на зямлю свой смутак-жаль,***
***Лье без патрэбы.***
***Адзінай зоркай уначы***
***Твой вобраз свеціць,***
***Глядзім у вочы і маўчым,***
***Адны ў Сусвеце.***
***Адны, як сэрца на крыжы,***
***На раздарожжы...***
***Малю, любіць дапамажы,***
***Кахаць, мой Божа!..***

## Ганна МІКЛАШЭВІЧ

❑

***Свой сум адной ужо мне не адолець —***
***Ён сэрца затапіў па берагі,***
***І я вяду душу сваю на споведзь,***
***Каб збавіцца смяротнае тугі.***

***Мой спавядальнік — месяц залацісты,***
***Тужлівай ночы трапяткі слухач.***
***Яго лагодны позірк прамяністы***
***Разгоніць змрочных думак плач.***
***Мой спавядальнік — вечар смуглатвары.***
***Спакоем улагодзіць мне душу,***
***Ў сутонні раскалыша песні-мары***
***І мне паверыць, што не сагрушу.***

❑

***Задухмяніць суніцамі лета,***
***Зацалуе гарачымі вуснамі.***
***У абшарах прываблівых кветак***
***Буду кветкаю самай спакуснаю.***
***Задурманю ўначы асалодай,***
***Зачарую пялёсткамі тонкімі,***
***І з душы трапяткая мелодыя***
***Праліецца прызнаннямі звонкімі.***
***Сёння марамі я абагрэта,***
***Летуценнямі ясна-спакуснымі...***
***Задухмяніць суніцамі лета,***
***Зацалуе гарачымі вуснамі.***

❑

***Я занатоўваю смяшынкі мілых воч,***
***Рыфмую вуснаў тонкія абрысы...***
***Недаравальна згубленая ноч***
***Халодных зорак набывае рысы.***
***У сэрца — светлай вечнасці блакнот —***
***Запісваю расчуленыя словы,***
***А космас думак нараджае лёд***
***З празрыстасцю нябесна-адмысловай.***
***Я занатоўваю сусветы таямніц,***
***Рыфмую непрысвёныя сюжэты...***
***І што за справа мне да тых блудніц,***
***Якімі цешацца бяздомныя паэты.***

## Алена БАБУРЭВІЧ

❑

***Лістапад.***
***Зоркапад.***
***Дрэвы адцвілі лістотай.***
***І наўгад,***
***Неўпапад***
***Дождж перабірае ноты.***
***І халодзіць,***
***Аж звініць,***
***Сцюжа ў спахмурнелым небе.***
***Пераплыць,***
***Перажыць***
***Адзіноту неяк трэба.***
***Не засне***
***У мяне***
***Злая на душы самота,***
***Ахіне.***
***Нібы ў сне,***
***Дождж перабірае ноты.***

## Вера КАВАЛЕЎСКАЯ

❑

***Ты жыцця майго ніяк не зменіш,***
***Не табе зламаць мой тонкі лёс,***
***Ты мяне ніколі не сустрэнеш, —***
***Мне шкада, шкада цябе да слёз.***
***Мне шкада, што слодыч пацалункаў***
***Будзе іншы з вуснаў піць маіх,***
***І не знойдзеш болей паратунку***
***Ад таго, што мы не удваіх,***
***Што жыцця майго***
***ты больш не зменіш***
***І не прыйдзеш зноўку ты ў мой лёс,***
***Не мае адчыніш заўтра дзверы...***
***Мне шкада, шкада цябе да слёз...***

❑

***І толькі вочы ў колер спелых сліў,***
***І толькі ночы белыя завеі,***
***І ў валасах сняжынак пераліў,***
***Святло пагляду скрозь густыя веі,***
***І ад тваёй зімы кідае ў жар,***
***Гарачых вуснаў полымя алее,***
***І ты — майго кахання гаспадар,***
***І я — твая зімовая лілея...***

## Вольга ЧУМІЧОВА

### Трыялет

***Я узышла на Эверэст,***
***Заснежаны і непрыступны.***
***З пакут будуючы прыступкі,***
***Я узышла на Эверэст.***
***Ды марны, марны подзвіг рупны,***
***Бо ў адзіноце праўлю фэст:***
***Я узышла на Эверэст,***
***Заснежаны і непрыступны.***

### Малітва

***Абарані яго, Бог, ад напасцяў,***
***Будзь суцяшэннем на яве і ў сне.***
***Дай яму шчасце, найлепшае шчасце...***
***Хай без мяне...***
***На чужой старане...***

## Яўгіння КАЛЯДА

❑

***Цяпер мы не маем патрэбы***
***адзін у адным.***
***Халоднае чорнае неба***
***і воблакаў дым...***
***Памерла пачуцце, якое***
***й жывым не было.***
***Халоднай, прывіднай смугою***
***растала, сплыло...***
***І мары, як птушкі з нябёсаў,***
***пачнуць сумаваць.***
***Як дзіўна: пабітыя лёсам —***
***а хочуць лятаць!***
***Захочацца марам на неба,***
***ды крыкну я ім:***
***цяпер мы не маем патрэбы***
***адзін у адным!***

---

*Юрыю ЧАРНЯКЕВІЧУ дваццаць гадоў. Ён родам з Пінска. Цяпер вучыцца ў БДПУ імя М. Танка на факультэце беларускай філалогіі і культуры.*

*Калі чытаць яго вершы похапкам — яны раздражняюць сваёй незразумеласцю, хаатычнай асацыятыўнасцю... Так, як раздражняла мяне роспачна-нервовае ліставанне-знаёмства з самім аўтарам гэтых арыгінальных паэтычных радкоў, што спарадычна вымыкаюць з яго істоты ў сцужэлую прастору... Выпадковыя словы яго ўзнікаюць нечакана, як самнамбулы, балансуючы ў быційным абсягу празаічага, на першы погляд, тэксту. Як у дзіцячай мазаіцы, іх трэба дапасоўваць адно да другога, кампануючы ў радкі і летуценна-абстрактныя строфы...*

*Але і тады верш Чарнякевіча, як літаратурны твор, усё адно не складваецца ў адно цэлае, а разлятаецца, як няўлоўны астэроідны пыл, ледзь толькі мы пачынаем уціскаць яго ў пракруставa ложа традыцыйных паняццяў і вызначэнняў.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

## Юры ЧАРНЯКЕВІЧ

❑

***Белая столь.***
***Белая столь.***
***Грукат у шыбы.***
***Вокны стогнуць.***
***Збіраюцца падаць.***
***Збіраюцца...***
***Радасць.***
***Вялізнае хваляванне.***

***Шэрае неба.***
***Паветра — смурод.***
***Лістоты няма.***
***Яе скралі бамжы.***
***І траву***
***Жоўта-рудую***
***З пылам.***
***Іду.***
***Цыгарэта.***
***Смецце.***
***Брук.***
***Рэдкі колер.***
***Дзяўчынка з тварам.***
***Расцалаваць бы!..***
***Восеньскі ранак.***
***Мёртвыя кроплі дажджу.***

❑

***Рэальнасцю падзей,***
***Адбіткам Смерці***
***Сталі Рэкі,***
***Увечары, а восьмае,***
***Калі***
***Напоўніліся кветкі холадам,***
***А лісце, паміраючы, макрэла.***
***Тыя рэкі Стыні***
***Плылі па жылах, цела гарачылі***
***Насустрач сэрцу, бяздані крывавай***
***Ды кплі з месцаў ціхіх,***
***Зеляніны,***
***Караблёў застылых.***
***І — абуджалі***
***І берагі, і рыб у сваім целе,***
***І пясок на дне.***
***Як дзіўны сон,***
***Яны марудна беглі***
***Туды, чамусьці,***
***У атруту мора,***
***Каб там застацца,***
***Каб унікнуць руху***
***І піць салёныя***
***Хвіліны***
***Адпачынку.***

❑

***Халодны аркуш***
***У халодным сшытку,***
***Без ліній гладкі,***
***Не крануты мовай,***
***Без плямы ад віна***
***На целе белым,***
***Без скуры на парэпаных***
***брывах.***
***У слодычы,***
***Заціснуты ў бутэльку***
***Знаёма-недарэчны***
***Рэдкі голад,***
***Усцішаны сваёю перамогай***
***Над болем страўніка***
***І над спатканнем***
***З ежай.***
***Як ціха ў небе!..***
***Гэта толькі мара,***
***Бо сонны розум,***
***Пазяхае словам,***
***Глытае дні***
***Ды коціць пах паветра***
***На вадкі,***
***поўны небакраем***
***Вечар.***

❑

***Самота.***
***Нават сумна развважаць***
***Пра чысты аркуш,***
***Пра нуду і волю...***
***На вуліцы — дажджы.***
***На падбароддзі — восень.***
***Проста восень,***
***І туга,***
***Як цёплы дзікі звер,***
***Што паглынае думкі...***

***Шурпатыя галовы,***
***Валасы і цені,***
***Нябёсаў даль —***
***У цяжкім, доўгім сне,***
***На ложку,***
***Дзе хварэла маці***
***Уся ў вэлюме,***
***Уся белая парфумай,***
***З рукой на коўдры...***

## Нарыс — людскі жыццяпіс

"Сацыяльны патэнцыял беларускай перыёдыкі" — так назваў сваю кнігу рэдактар газеты "Рэспубліка" Сяргей Дубовік. У кнізе, што нарадзілася на аснове кандыдацкай дысертацыі, аўтар разглядае стан і адметнасці жанру сацыялагічнага нарыса на старонках нашага друку. Сацыялагічная інфармацыя набывае ўсё большае значэнне ў жыцці грамадства. Яна дазваляе праз канкрэтны фактычны матэрыял даваць шырокую, абагуленую гісторыю сучаснасці, аператыўна ўздзейнічаць на пераканаnні чалавека, вызначацца ў складаных працэсах грамадскіх адносін, у першую чаргу эканамічных, асэнсаваць глыбокія перамены ў змесце і характары працы, матэрыяльных і духоўных умовах жыцця людзей.

У гэтым навуковым выданні разглядаецца спецыфіка сацыяльнага нарыса як сродку пазнання чалавека чалавекам, аналізуецца практыка перыядычных выданняў нашай краіны ў гэтым жанры за апошнія дваццаць гадоў. Аўтар сцвярджае, што ў сённяшніх варунках сацыяльны нарыс можа адыграць надзвычай важную ролю ў справе кансалідацыі і паразумення грамадства.

Кніга прыцягвае ўвагу хоць бы таму, што не часта на Беларусі выдаваліся і выдаюцца навуковыя даследаванні ў галіне журналістыкі. Аднак асаблівую каштоўнасць надае ёй тое, што яе аўтар Сяргей Дубовік — не толькі тэарэтык, але і практык, дзеючы журналіст і рэдактар. Прадметам яго даследавання стала сучасная беларуская журналістыка, творы публіцыстаў, чые прозвішчы кожны дзень сустракаюцца на старонках газет. Адметнай рысай кнігі стала тое, што аўтар не абмежаваўся аналізам выключна цэнтральнага друку, а шмат увагі аддаў творчасці журналістаў абласных і раённых газет.

Асаблівую цікавасць выклікае раздзел, прысвечаны ролі і значэнню газетнага малюнка.

Кніга разлічана на журналістаў і кіраўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, выкладчыкаў і студэнтаў факультэтаў журналістыкі, на ўсіх, хто цікавіцца журналістыкай, піша ў газеты. І, напэўна, асабліва ўдзячнымі аўтару мусяць быць студэнты — у канцы кнігі С. Дубовіка ёсць слоўнік асноўных прафесійных тэрмінаў, і гэта сапраўды тэрміны сённяшняга дня беларускага друку.

М. В.

## З франтавога пакалення

Алесь Астапенка пражыў толькі некалькі дзён пасля свайго 50-гадовага юбілею (нарадзіўся 14 ліпеня 1920 года, памёр 20 ліпеня 1970-га). Да Вялікай Айчыннай вайны паспеў скончыць тры курсы літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Адначасова працаваў у рэдакцыі газеты "Звязда". У гады вайны быў рэдактарам і дыктарам беларускай рэдакцыі Усесаюзнага радыёкамітэта (Масква), удзельнічаў у баях на Заходнім і Бранскім франтах. Улетку 1943 года пад Арлом яго цяжка параніла. З восені 1943-га зноў працаваў на радыё ў Маскве. Вярнуўшыся ў Мінск, загадваў аддзелам літаратуры і мастацтва газеты "Чырвоная змена", а ў 1947—1953 гадах з'яўляўся загадчыкам аддзела піянерскага жыцця часопіса "Бярозка".

Творчы шлях пачаў у 1940 годзе з рэцэнзій і артыкулаў, а першы верш апублікаваў у 1942 годзе. Пры жыцці ў А. Астапенкі выйшлі кнігі паэзіі "Выпрабаванне" (1947), "Дзень маёй Радзімы" (1952), "Выбранае" (1957), "Сэрца спявае" (1960). Паасобныя вершы пакладзены на музыку. Вядомы А. Астапенка і як перакладчык. Па-беларуску пераўвасобіў творы рускіх, украінскіх, літоўскіх, латышскіх, нямецкіх паэтаў, а таксама грузінскія казкі. Найбольш поўна творчая спадчына А. Астапенкі прадстаўлена ў кнізе "Выпрабаванне" (1980).

# Ад панядзелка да панядзелка...

### З БУДНЯЎ ЦІ СВЯТ АДНАГО ІНСТЫТУТА

*Быў час, быў век, была эпоха, калі ва ўстановах — праўда, магчыма, не ва ўсіх — існавалі насценныя газеты, якія таксама, як і іншыя сродкі інфармацыі, выхоўвалі масы ў адпаведным духу. І кожнае слова там павінна было несці дух эпохі. Была такая газета і ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Друкавалася яна, як гэта і быць павінна, тыражом 1 экземпляр або — як гэта модна сёння гаварыць і пісаць — паасобнік. Гэтых паасобнікаў, аднак, непрадбачлівая гісторыя не зберагла для дапытлівых нашчадкаў. А ў мяне захавалася копія часткі аднаго з нумароў, створанага ў лютым 1988 года. Ці не зацікавіць яна каго-небудзь з нашых сённяшніх чытачоў? Мне захацелася паспрабаваць праверыць. Аўтарам яе была Тамара Чабан, а ёй памагалі Тэрэза Голуб і Таіса Грамадчанка.*

*Да аднаго з тэкстаў просіцца маленькае тлумачэнне. У той час у інстытуце група навуковых супрацоўнікаў пад кіраўніцтвам Адама Мальдзіса рыхтавала біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі". Пра гэта і паведамляецца ў радках: "Піша і піша Мальдзіса група / Картачкі свае". Усё астатняе як быццам павінна быць зразумелым. Пераканаецца ў гэтым той, хто прачытае ўсё.*

1

***Ад панядзелка да панядзелка,***
***Снег ці дожджык лье,***
***Піша і піша Мальдзіса група***
***Картачкі свае.***

***Хай ты шчаслівы і багаты***
***Свой пражыў увесь век,***
***А ў картатэку калі не трапіў,***
***То й не чалавек.***

***Вершы, раманы кануць у лету,***
***Пойдзе ўсё на дно,***
***Ды застанецца картатэка —***
***Вечнае адно.***

2

***Наш крытычны агарод,***
***Як дасі тут рады?***
***І ў паэзіі разброд,***
***І у прозе звады.***

***І класічныя ілбы***
***Вартыя прапалкі,***
***А наўкола, як грыбы,***
***Ўсё растуць суполкі.***

***Кожны геній, кожны чын,***
***Кожны хоча славы.***
***Узяць бы ў рукі добры дрын —***
***Ды не тое права.***

3

***Вы шуміце, шуміце***
***Аб рамане "Зеніце",***
***І пра "Меч князя Вячкі",***
***І аб "Знаку бяды",***
***А я лягу-прылягу,***
***Хай усё адляжыцца,***
***Я знайду у архіве***
***І адкрыю тады.***

4

***Не бяжым мы ўслед за літпрацэсам,***
***Мы жывём вышэйшым інтарэсам***
***І не знаем клопатаў крытычных,***
***Акрамя сваіх, тэарэтычных.***

***Патанулі вершы і раманы***
***Ў навуковым у густым тумане,***
***Добра, і нікому не абідна —***
***За туманам нічога не відна.***

5

***Не качагары і не цеслі мы,***
***Ды хлеб жуём свой нездарма,***
***Шукаем сувязі мы цесныя —***
***І нават там, дзе іх няма.***

***Мадагаскар і Палінезія,***
***Зялёны мыс і Ліверпуль...***
***Мы вам дакажам, што паэзія***
***І проза нашая адтуль.***

***Мы знаем рускую, французскую***
***І мовы ўсе да аднае —***
***Вось толькі мову беларускую***
***Вучыць нам часу не стае.***

6

***Я ўжо забыла, дзе мой дом,***
***Муж мой і дзеці плачуць,***
***А я здаю чарговы том —***
***Я не магу інačай.***

***Я ўсе архівы абыду,***
***Тэксты пералапачу,***
***Першакрыніцы ўсе знайду —***
***Я не магу інačай.***

***Шэф, ты мяне аберагай,***
***Помні, што ўсё ж я дама,***
***І у архіў не адсылай,***
***А то збягу к Адаму.***

Тэрэза Голуб зберагла ў сваёй памяці яшчэ адзін верш, які ў свой час у друк не трапіў:

***Ой, хацела ж мяне маці***
***Ды за першага аддаці,***
***А той першы — кепска піша вершы,***
***Ой, не аддай мяне, маць!***

***Ой, хацела ж мяне маці***
***Ды за другога аддаці,***
***А той другі — пайшоў у драматургі,***
***Ой, не аддай мяне, маць!***

***Ой, хацела ж мяне маці***
***Ды за трэцяга аддаці,***
***А той трэці — ў раённай газеце,***
***Ой, не аддай мяне маць!***

***Ой, хацела ж мяне маці***
***Ды за чацвёртага аддаці,***
***А той чацвёрты —***
***крытыкай зацёрты,***
***Ой, не аддай мяне, маць!***

***Ой, хацела ж мяне маці***
***Ды за пятага аддаці,***
***А той пяты — сатырык заўзяты,***
***Ой, не аддай мяне, маць!***

***Ой, хацела ж мяне маці***
***Ды за шостага аддаці,***
***А той шосты — піша толькі тосты,***
***Ой, не аддай мяне, маць!***

***Ой, хацела ж мяне маці***
***Ды за сёмага аддаці,***
***А той сёмы — пісьменнік вядомы,***
***Той не схацеў мяне ўзяць!***

***Post scriptum***

У адной з песень ёсць загадкавыя радкі:

***Мы вам дакажам, што паэзія***
***І проза нашая адтуль.***

Мне чамусьці захацелася ў гэтай сувязі нагадаць казку, якая, у прыватнасці, захавалася на мове суахілі. Перадам яе, вядома, у кароткім пераказе. Адзін гаспадар разумеў мову жывёлін і птушак, але калі б каму-небудзь прызнаўся ў гэтым, то адразу памёр бы. Ён чуў, як вол скардзіўся аслу на свой лёс і як яны разважалі над тым, што трэба рабіць. І слухаючы іх, моцна смяяўся. Жонка яго рашуча патрабавала, каб ён паведаміў ёй, чаму ён смяецца. Муж паспрабаваў растлумачыць, што калі б ён сказаў, то памёр бы. Але жанчыну гэта не пераканала. Нарэшце ён не вытрымаў сварак, падрыхтаваўся да смерці, развітаўся з бацькамі, а па дарозе дадому сустрэў пеўня, які забаўляў сваіх пяцьдзесят курачак. Тут сабака пачаў ушчуваць пеўня, што той весяліцца ў такі час, калі гаспадар збіраецца паміраць. На гэта певень адказаў, што гэты гаспадар зусім неразумны. Сам ён, певень, спраўляецца з пяцьцюдзесяцю курачкамі, а гаспадар адной жонцы не дае рады.

— А што павінен быў бы рабіць?

— Узяць дубінку і адлупцаваць добра такую жонку.

Гаспадар паслухаў і зрабіў так, як раіў певень. І жонка больш на смерць яго не пасылала.

Тым, хто пацікавіцца, чаму я так далёка завандраваў — аж у тую частку Афрыкі, дзе гавораць на мове суахілі — раю прачытаць казку Ядвігіна Ш. "Што сказаў певень".

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

СПАДЧЫНА

# Паэт з Лагойшчыны

*Лагойскі край, як і слаўтыя Уздзеншчына ці Ушаччына, — край паэтаў. Мабыць, прырода Лагойшчыны садзейнічае развіццю паэтычных здольнасцей. Прыгожыя сасновыя бары чаргуюцца тут з духмянымі лугамі, узвышшы — з нізінамі. Сустракаюцца мясціны, якія яшчэ не зруйнавала чалавечая дзейнасць.*

*Па такіх мясцінах, па сцежках свайго дзяцінства хацеў правесці мяне мой сябра — Эдуард Грахавец.*

*Пазнаёміўся я з ім у 1964 годзе, у час вучобы ў Смалявіцкім педвучылішчы. Ён ужо тады друкаваў свае вершы ў "раёнцы". Першы свой зборнік вершаў падрыхтаваў да друку ў 1970 годзе. Але, па розных словах, зборнік "зарэзалі".*

*Пасля педвучылішча Эдуард працаваў у школе, пазней, пасля заканчэння пединстытута, выкладаў гісторыю ў ПТВ ў Жодзіне.*

*Сямейнае жыццё, казаў, не вельмі спрыяла напісанню вершаў. А ён быў вельмі адказным чалавекам і на першае месца паставіў сям'ю. Выгадаваў двух сыноў. Вярнуўся да вершаў пасля 1990 года.*

*У жніўні 1999 года я сустрэў яго ў Барайлянах, дзе ён праходзіў курс лячэння. Я прапанаваў яму адабраць лепшыя вершы для зборніка. У верасні ён перадаў мне агульны сшытак з вершамі, а пазней яшчэ тры школьныя сшыткі. Вершаў з 60—70-х гадоў амаль не засталося. У кастрычніку, лістападзе, снежні 1999 года, нібы адчуваючы непазбежнае, ён напісаў добрую пайсотню вершаў. Апошні з іх памечаны 1 студзеня 2000 года.*

*Лепшыя вершы я набраў на камп'ютэры, збрашураваў, і атрымаўся зборнік, які Эдуард назваў "Вяртанне". За тыдзень да сваёй смерці ён атрымаў яго ў руках. Памёр ён 5 лютага, тыдзень не дажыўшы да свайго 59-годдзя.*

*Прапаную ўвазе лімаўскіх чытачоў вершы свайго заўчасна памерлага сябра.*

**Георгій ГАЦКЕВІЧ**

Эдуард ГРАХАВЕЦ

❑

***Прыйду у лес вясною хоць на міг,***
***Пакінуўшы за сінню горад дальні.***
***Увечары, апоўдні ці на ранні***
***Прыйду у лес вясною хоць на міг.***
***Там елкі, і бярозы, і дубы,***
***Што, як бацькі, ў вайну нас гадавалі.***
***Там у блакаду нас не выдавалі***
***І елкі, і бярозы, і дубы.***
***Там рэха нас гукала у бары,***
***Няслушнікаў, расхрыстаных і босых.***
***Там на іглічках серабрацца росы —***
***Нявысахлыя слёзы той пары.***

1994 г.

## Бацькава поле

***Быццам абрыўкі сноў,***
***Быццам бы споведзь нашча:***
***— Вунь, паглядзі, сынок,***
***Бацькава поле... Наша...***
***Помню гарачы дзень,***
***Мама пшаніцу жала,***
***Бацька на пні сядзеў,***
***Стрэльба ля ног ляжала.***
***А за маліннікам тым —***
***Дым баравога лесу...***
***Бачыў я гэта, ды***
***Дужа не цяміў сэнсу.***
***У памяць мне горкі міг***
***Зыркне не раз, як злыдзень:***
***Бацька устане і...***
***Болей ужо не прыйдзе.***
***Словамі не раскажу,***
***Як мне цяпер часамі.***
***Поле глядзіць у душу***
***Мамінымі слязамі.***

1998 г.

❑

***Мы болей стрэнемся ці не,***
***Адзіны знае Бог.***
***Ты запішы ў блакноцік мне***
***Свой хатні нумарок.***
***Хоць на Зямлі з нас кожны госць,***
***Адну я знаю рэч:***
***Раз тэлефон расстанняў ёсць --***
***Ёсць тэлефон сустрэч.***

12.11.1999 г.

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**У культурніцкім жыцці ўсталяваўся, што для лета звычайна, "мёртвы сезон". Нават папса расейская дарогу да нас забылася...**

**РАМПА**

Пакуль ТЮГ змагаецца за больш-менш прыстойныя заробкі, гастралюючы ў Мінску піцерскі тэатр імя Ленсавета дае спектаклі па білетах коштам ад 2 тысяч і вышэй.

*21 і 22 ліпеня* — "На тлумным месцы" А. Астроўскага

*23 і 24* — "Калігула" А. Камю

**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

*27 ліпеня, чацвер, 16.25* — перадача пра гасцяванне ў Мінску ўдзельнікаў Літаратурнага экспрэса "Еўропа-2000".

*28 ліпеня, пятніца, 18.00* — у час, у які звычайна круцяць серыялы, гэтым днём БТ прапануе ўласную прэм'еру — тэлеверсія аповесці Уладзіміра Караткевіча "Сівая легенда". Фільм-спектакль будзе зусім свежым. Гэтымі днямі ён толькі манціруецца. У ролях — маладыя акцёры мінскіх тэатраў.

*29 ліпеня, субота, 12.05* — "Рамантыкі мора" пра Беларускі Саюз маракоў.

**КІНО**

З'явіўся беларускі, праўда, не серыяльны аналаг вядомай "Паліцэйскай акадэміі". Гэта эксцэнтрычная камедыя "Армія выратавання", кінадэбют прадзюсера і рэжысёра бэтэшных гумарыстычных перадач "Банка коміксаў" і "Адбой" Яўгена Краўцова.

*З 17 па 23 ліпеня* — у кінатэатры "Партызан"

*З 24 па 30 ліпеня* — у "Салюце".

## Беларуская акадэмія мастацтваў

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ**

**у аспірантуру і ўсуіскальнікі на 2000/2001 вучэбны год з адрывам і без адрыву ад вытворчасці па спецыяльнасцях:**

*17.00.01* "Тэатральнае мастацтва"

*17.00.03* "Кіно-, тэле- і іншыя экранныя мастацтвы"

*17.00.04* "Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і архітэктура"

*17.00.06* "Тэхнічная эстэтыка і дызайн"

Правілы прыёму агульныя.

Прыём дакументаў з 1 верасня па 30 верасня 2000 г.

Уступныя экзамены ў аспірантуру з 1 лістапада па 30 лістапада 2000 г.

Дакументы падаваць па адрасе: г. Мінск, пр-т Ф. Скарыны, 81, пакой 505.

Даведкі па тэлефоне 231-59-15.

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 20.07.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3680.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

## ПАРОДЫІ

### Малюся... за ножкі

О, доўгія ножкі... —
адно захапленне.
У танцы вас бачу
ва ўзнёслым кружэнні.
Прад вамі хмялею,
хаця і цвярозы.
Што зробіш, не знаеш:
губляецца розум.
Ды буду маліцца
яшчэ гарачэй,
Каб вам пачынацца
ад самых плячэй.

**Юрась СВІРКА**

***Я доўга пражыву***
***яшчэ, магчыма,***
***Бо ножкі доўгія стаяць***
***перад вачыма.***
***Калі не спіцца,***
***часам, доўгімі начамі,***
***Яны з юнацтва даўняга***
***прыходзяць самі.***
***І што цікава,***
***ўспамінаюцца лягчэй***
***Найперш з іх тыя, што***
***былі даўжэй.***
***Нібыта стромкія***
***бялюткія бярозы...***
***І я хмялею ўжо,***
***хоць ведаю — цвярозы!***
***Перабіраю іх***
***у памяці нястомна,***
***Ажно губляю розум,***
***а калі й прытомнасць.***

***Канаць пачну, а ў Бога***
***папрашу: хутчэй***
***Дай мне пабачыць...***
***ножкі ад плячэй!***

### Непатрэбны дзед

Дзед, у якога на абед
за гарэлку закусі больш
і хлеба —
неперспектыўны дзед:
ён з розумам,
а такіх нам —
не трэба!

**Павел ШРУБ**

Павел САКОВІЧ

***У дзеда — да аблокаў***
***хлеба,***
***І закусі — на цэлы полк.***
***Дык колькі ж той***
***гарэлкі трэба,***
***Каб атрымаўся***
***нейкі толк?***

***Адны за мудрасць***
***дзеда хваляць:***
***— Стары не хоча***
***быць п'яны.***
***А двое зубы злосна скаляць:***
***— Цвярозы — горшы,***
***чым дурны.***
***Не будзе трэцім***
***з намі дзед —***
***Няхай адзін есць свой абед!***

### Флірт пад стогам

Між стагоў
і жоўтых сцірт
Незнаёмых сцежак згін
І стракозак
дзіўных флірт
Свідравалі мне мазгі...

**Мікалай ВІНЯЦКІ**

***Вакол стажкоў***
***штодня хаджу,***
***На сцежкі новыя гляджу...***
***Я ў тым паклясціся гатоў,***
***Што круціць моладзь***
***тут любоў.***
***Няйначай, парачкі***
***штовечар***
***Тут сена пад сабой***
***камечаць.***
***Карціны жыва***
***паўстаюць,***
***Як стог той месяць***
***і таўкуць...***
***Кажу відовішчам я: згінь!***
***Ды не, свідруюць***
***мне мазгі...***
***Аж тут падкраўся***
***брыгадзір***
***І на мяне***
***так строга — зірк:***
***— Ні днём спакою,***
***ні ўначы.***
***Крадуць во сена...***
***Смаркачы!***

Ваш ход, маэстра...

Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

Міхась МІРАНОВІЧ

## Фрашкі

### Прыкметы паэта

***Вядома,***
***Што усе паэты***
***Жанчын любілі***
***І віно.***
***Як браць***
***Вось гэтыя прыкметы,***
***То я — паэт***
***Ужо даўно.***

### Жаночая логіка

***Не зразумець***
***Жанчыну мне,***
***Не раскусіць яе***
***Ніяк:***
***Яна ўсё паўтарае***
***"Не",***
***Ужо даўно зрабіўшы***
***"Так".***

### Дзе наша не прападала?

***У галаве ад слоў —***
***Такая каша!***
***З яе вось гэты***
***Заклік не ідзе:***
***Гэй, дзе яшчэ***
***Не прападала наша?***
***Хутчэй туды!***
***І там хай прападзе!***

### Колькі ведаю!..

***Ужо і я***
***Згінаюся ў дугу,***
***І хутка будзе***
***Песня мая спета.***
***Цяпер я шмат чаго***
***Ужо не магу,***
***Затое колькі ведаю***
***Пра гэта!..***

### Флюгер

***— Калі спакойна***
***Хочаш жыць на свеце,***
***Адно рабі старанна***
***Дзень пры дні:***
***Дакладна вызначай,***
***Куды дзьме вецер —***
***І будзеш так, як я —***
***На вышыні.***

СТРАШЫЛКА

## Канец цывілізацыі

НЕКРАЛОГ

Канец цывілізацыі! Дзве тысячы гадоў пратрывала яна, і вось — знікла. Схілім галовы перад пакутніцай, што забівала сябе ўвесь гэты час. Цывілізацыя-самагубца! Выключны выпадак у нашай Галактыцы. Бедная, няшчасная, зняверылася яна ў сабе і вырашыла спыніць сваё існаванне. Выбрала яна планету, раздрабнілася на мільёны істот (інакш цывілізацыя не можа загінуць) — і ўзялася за справу. Можна было б проста ўзарваць планету, але занадта нецікавая гэта была б смерць. Цывілізацыя пайшла па іншым шляху. Аддамо належнае яе вынаходлівасці! Па-майстэрску і арыгінальна паставілася гераіня да свае мэты.

Растворaная ў мільёнах, яна насаджала хваравітыя памкненні. Развіццё планеты пайшло ў адзін бок — у бок удасканалення зброі, якая і павінна была ўрэшце знішчыць цывілізацыю. Войны сталі правілам; на іх фоне адбываліся іншыя падзеі. Ступень развіцця пэўнай супольнасці маленькіх істот знаходзілася ў непасрэднай залежнасці ад узроўню развіцця зброі: чым больш дасканалая яна была, тым больш развітой лічылася супольнасць. Усе думкі істот былі накіраваныя на вынаходніцтва больш дзейсных сродкаў забойства, а развіццё зброі цягнула за сабой развіццё навукі і мастацтва. Усе навукі былі падпарадкаваны адной ідэі — удасканальваць зброю, усе мастацтвы служылі аднаму — услаўлялі войны.

Цывілізацыя, аднак, хацела смерці непрыкметнай і нечаканай; яна баялася, што самагубству могуць перашкодзіць, і таму не дала маленькім істотам здольнасці разумець яе мэты. Развіваючы зброю і — заадно — навукі, яны былі перакананыя, што працуюць на мір, на дабро і развіваюць навуку, а зброю — заадно з ёй. Апяваючы войны, забойствы і жорсткасць, яны думалі, што апяваюць любоў да радзімы і да суайчыннікаў.

Вынаходлівая цывілізацыя ўдала спалучала неспалучальнае: любоў і прагу забіваць, міласэрнасць і лютасць, запавет "не забі" і ідэю ачышчэння свету праз кроў. Цывілізацыя блытала і змешвала ўсё, і істоты нічога не разумелі, не бачылі, што рыхтуюць сабе пагібель. Яны ўяўленнем стваралі сабе ворагаў і змагаліся з імі; з'яўляючыся адным цэлым, яны фантастычным чынам прыйшлі да ідэі падзелу саміх сябе на вышэйшых і ніжэйшых. Цывілізацыя вынайшла і ўсяліла ў іх незвычайныя, анамальныя пачуцці, якія практычна не сустракаюцца ў іншых цывілізацыях: зайздрасць, пагарду, нянавісць і інш.

Ненармальнасць была ўласціва ўсім істотам: забіваючы адных, яны горача кахалі іншых; здзекваючыся з ворагаў, яны аддавалі жыццё за сяброў; услаўляючы дабро, яны ніколі не пераставалі рабіць зло.

Ды хто пералічыць усе неадпаведнасці і дзівацтвы, прыдуманыя самагубцай? Урэшце, яна дасягнула мэты — перамагла сама сябе, пакінуўшы ў гісторыі нашае Галактыкі прыкметны і доўгатрывалы след. Ці знойдуцца ахвочыя пайсці па гэтым следзе? Магчыма, але яны ўжо не будуць арыгінальнымі.

**А. ДУБАСАВА**

Ілья ШАХРАЙ

## Абсурдзінка

Ікар вяртаўся...

Убілася ў галаву, назаляла прыслоўе: "Каб ведаў, дзе бразнешся, саломкі падтрусіў бы". І пашанцавала-такі: на саламяную страху "прызямліўся". Зразумела, тое-сёе паламаў, але лекары падрамантавалі і далі другую групу інваліднасці.

Ходзіць Ікар на мыліцах, напявае пад нос вядомую італьянскую песеньку "О, маё сонейка"... А "тое-сёе" ўсё ж пабольвае.

Але знайшоўся добразычлівы спонсар, адарыў летуна бочкай мёду ды мехам пер'я, параіў: "Паабклейвай свае мыліцы, узмахні і — зноў у палёт".

Скарыстаў Ікар мёд па прызначэнні і — акрыяў. Адкінуў мыліцы. Але ходзіць з тым мехам пер'я: раптам падтрусіць прыйдзецца...